## НА НАРАДЗЕ Ў ПРЭЗІДЭНТА АБМЯРКОЎВАЛІСЯ ПРАБЛЕМЫ КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ РЭФОРМЫ

**28 жніўня ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкі адбылася рабочая нарада, на якой абмяркоўваліся праблемы канстытуцыйнай рэформы.**

У нарадзе ўдзельнічалі прэм'ер-міністр М.Чыгір, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта М.Мясніковіч, віцэ-прэм'еры, міністры і вучоныя. Пры абмеркаванні асноўных палажэнняў праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу на неабходнасць пашырэння правоў і свабод грамадзян, сацыяльных гарантый.

Канстытуцыйная рэформа, падкрэсліў Прэзідэнт, неабходна для прадаўжэння і паглыблення дэмакратычных працэсаў, станаўлення беларускай дзяржаўнасці і пераадолення крызісных з'яў у эканоміцы.

Улічваючы вялікую грамадскую цікавасць да маючага адбыцца рэферэндуму, Прэзідэнт даў указанне ў самыя сціслыя тэрміны завяршыць работу над праектам новай рэдакцыі Канстытуцыі.

У бліжэйшыя дні гэты праект будзе накіраваны ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і апублікаваны ў сродках масавай інфармацыі.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Як вядома, згодна з Асноўным Законам краіны «Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь з'яўляецца найвышэйшым прадстаўнічым пастаянна дзейнічаючым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь» (артыкул 79 Канстытуцыі РБ).

Прэзідыум Вярхоўнага Савета ў прынятай па пытанню правядзення давыбараў дэпутатаў усіх узроўняў пастанове рэкамендуе шэрагу камісій Вярхоўнага Савета ажыццяўляць сістэматычны кантроль за безумоўным выкананнем заканадаўства аб выбарах органамі прадстаўнічай і выканаўчай улады. Абласным і Мінскаму гарадскому Саветам дэпутатаў прапанавана аказваць ніжэйстаячым Саветам арганізацыйна-метадычную дапамогу ў падрыхтоўцы і правядзенні сумесна з выбарчымі камісіямі і выканаўчымі камітэтамі мерапрыемстваў, звязаных з выбарамі дэпутатаў, забяспечыць строгае выкананне на адпаведнай тэрыторыі палажэнняў Канстытуцыі і заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь. Мясцовым Саветам рэкамендавана разам з выканаўчымі камітэтамі разгледзець склад выбарчых камісій і пры неабходнасці правесці ў іх замены, не дапускаць ігнаравання службовымі асобамі канстытуцыйных прынцыпаў і патрабаванняў заканадаўства. Тэрытарыяльным выбарчым камісіям рэкамендавана паскорыць прызначэнне даты правядзення дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў. Мясцовым Саветам неабходна таксама стварыць умовы для свабоднага волевыяўлення народа, папярэджваць выпадкі дыскрэдытацыі прадстаўнічай улады і байкота выбараў, ад каго б яны не зыходзілі і ў якой бы форме не выяўляліся.

Для аказання практычнай дапамогі мясцовым Саветам дэпутатаў і аператыўнага вырашэння арганізацыйна-тэхнічных пытанняў, якія, вядома ж, узнікнуць падчас падрыхтоўкі выбараў, пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета створана рабочая група. Яе ўзначальвае першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Васіль Новікаў.

Як і на мінулым пасяджэнні Прэзідыума яшчэ раз, але ўжо канчаткова «шліфаваўся» парадак дня другой сесіі Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання. На ёй плануецца разгледзець звыш 60-ці праектаў законаў, звязаных з рэфармаваннем эканомікі, сацыяльна-эканамічным становішчам грамадзян, нацыянальнай бяспекай, барацьбой са злачыннасцю. У 35 дзейнічаючых заканадаўчых актаў будуць унесены адпаведныя змяненні і дапаўненні.

Другая сесія Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання пачне сваю работу 2 верасня 1996 года ў 16 гадзін.

Прэзідыум прыняў таксама пастанову аб стварэнні і фінансаванні Часовых творчых калектываў, якія будуць ажыццяўляць распрацоўку заканадаўчых актаў, унёс змены ў рэгламент работы кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і пастаянных камісій. Разгледжаны пытанні ўзнагароджання Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і некаторыя іншыя.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

● Паводле даных Мінстата, вытворчасць валавога ўнутранага прадукту ў студзені—ліпені бягучага года склала **85.898 мільярдаў рублёў — 100,2 працэнта** да ўзроўню аналагічнага перыяду мінулага года ў супастаўных цэнах.

● Калі **ўраджайнасць** у гэтым годзе была крыху больш за 24 цэнтнеры з гектара, то ў наступным годзе Мінсельгасхарч абяцае **30 цэнтнераў з гектара.**

● **Уклады насельніцтва** ў камерцыйных банках на 1 жніўня склалі 7,4 трыльёна рублёў, што ў 2 разы вышэй, чым на 1 жніўня мінулага года.

● У таварнай структуры **экспарту рэспублікі** за 6 месяцаў доля мінеральных угнаенняў склала 15,5 працэнта, сродкаў наземнага і паветранага транспарту — 14,4, машын і абсталявання — 13,1, тэкстылю і тэкстыльных вырабаў — 11,4, прадукцыі хімічнай і звязаных з ёй галін прамысловасці — 10,7 працэнта.

● Па стану на 1 ліпеня ў Беларусі было **2392 стратныя прадпрыемствы** (25,8 працэнта ад абследаваных прадпрыемстваў), **сума страт** склала 1.729 мільярдаў рублёў, больш чым у 2 разы ўзрасла доля стратных прадпрыемстваў у прамысловасці і будаўніцтве.

● У мінулым годзе на расійскіх дарогах **бясследна знікла** больш за 500 вадзіцеляў.

### УРАДЖАЙ-96

## Жніво набліжаецца да заканчэння. Хутка пачнецца сяўба азімых

**ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ**

На сённяшні дзень па рэспубліцы ўбрана большая частка засеяных плошчаў, а некаторыя гаспадаркі вось-вось завяршаюць жніво. Так што зараз ужо можна гаварыць пра вынікі. Самы высокі паказчык ураджайнасці, напэўна, застанецца за Гродзенскай вобласцю — дзесьці ў межах 30 цэнтнераў з гектара. На Гродзеншчыне, як лічаць спецыялісты Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, створаны вялікі прамысловы патэнцыял і маецца больш высокая культура земляробства. Таму менавіта Гродзенскі раён мае адзін з самых высокіх паказчыкаў ураджайнасці — 39,5 цэнтнера з гектара. Сярод гаспадарак са стаўшымі амаль своеасаблівай планкай добрага ўраджаю 30 цэнтнерамі з гектара, такія раёны, як Нясвіжскі, Столінскі, Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Карэліцкі, Шчучынскі, Клецкі, Смалявіцкі, Стаўбцоўскі, Горацкі, Круглянскі, Магілёўскі і Шклоўскі.

**ШТО Ў СКАРБОНЦЫ?**

Зараз здадзена дзяржаве больш паловы ад планавага паказчыка, які складае 1.900.000 тон збожжа.

Наконт якасці зернебабовых можна сказаць наступнае: ідзе добрая пшаніца з высокім утрыманнем клейкавіны, што пераўзыходзіць нават тую, якую наша дзяржава закупляе. Сёлета павінен быць лішак жыта, што можна выкарыстаць пры бартэрных абменах на тую ж пшаніцу і кукурузу, пастаўленую з-за мяжы.

Па ацэнках, ураджай бягучага года складзе дзесьці каля шасці мільёнаў тон. Значыць рэспубліка атрымае па 600 кілаграмаў збожжа на кожнага жыхара.

Каля 600 тысяч тон будзе закупляцца ў сувязі з немагчымасцю вырошчвання неабходных для кандытарскай прамысловасці і іншых патрэб сартоў пшаніцы і кукурузы. Гэта сфарміраваны сусветны вопыт — нават Францыя, якая забяспечвае кожнага грамадзяніна тонай збожжа, набывае казахстанскую пшаніцу.

**СПРАВЫ ПАСЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ ЎБОРКІ**

Адна з асноўных праблем пасля жніва — сяўба азімых. Агульная іх плошча складае 1,3 мільёна гектараў. Зараз падрыхтавана амаль палова глебы, бо ўборка, якая крыху зацягнулася, зрушыла тэрміны вызвалення палеткаў. Сёлета плануецца, па-першае, пашырыць плошчы пад пшаніцай (не менш чым 240 тысяч гектараў) і трыцікале, па-другое, зменшацца плошчы ячменю.

Прыярытэт — укараненню інтэнсіўных тэхналогій. Зараз у гаспадарках маецца 60 працэнтаў неабходных угнаенняў. Вялікая нястача фосфарных. Прынята рашэнне аб бюджэтным фінансаванні закупак вёскай угнаенняў на 80 працэнтаў кошту (40 — са сродкаў рэспубліканскага, 40 — мясцовага бюджэтаў, астатняе плаціць непасрэдна канкрэтная гаспадарка).

На сёння маецца толькі каля 1/3 хімічных сродкаў для пратраўлівання насення.

Таксама дзесьці на 1/3 выкананы гадавы план па вапнаванню глебы, бо існуе запазычанасць за правядзенне мінулагодніх работ у памеры 100 мільярдаў рублёў.

У бліжэйшы час, недзе з пачатку будучага тыдня гаспадаркі рэспублікі пачнуць масавую сяўбу азімых. Яна працягнецца да 10—15 верасня.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 558

### АБ УВЕКАВЕЧАННІ ПАМЯЦІ Б.І.САЧАНКІ — БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕННІКА, ЛАЎРЭАТА ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

У мэтах увекавечання памяці вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Сачанкі Барыса Іванавіча Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць прапанову Мінскага гарвыканкома і Міністэрства культуры аб устанаўленні ў 1997 годзе мемарыяльнай дошкі на доме № 29 па вул. Пуліхава ў г. Мінску, у якім жыў Б.І.Сачанка.

2. Міністэрству культуры ў 1997 годзе стварыць дакументальны фільм аб жыцці і творчасці Б.І.Сачанкі.

3. Дзяржаўнаму камітэту па друку, Саюзу беларускіх пісьменнікаў, Акадэміі навук Беларусі ў 1996—2000 гадах падрыхтаваць і выдаць збор твораў Б.І.Сачанкі ў 6 тамах.

4. Прысвоіць імя Сачанкі Барыса Іванавіча Велікаборскай базавай школе Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці і надалей называць яе: Велікаборская базавая школа імя Б.І.Сачанкі.

5. Рэкамендаваць Гомельскаму аблвыканкому сумесна з Хойніцкім райвыканкомам вывучыць пытанне аб стварэнні філіяла Хойніцкага краязнаўчага музея ў в. Вялікі Бор, дзе нарадзіўся Б.І.Сачанка, і прыняць адпаведнае рашэнне.

6. Рэкамендаваць Хойніцкаму райвыканкому прыняць рашэнне аб наданні адной з вуліц г.Хойнікі імя Б.І.Сачанкі.

7. Міністэрству культуры і іншым цэнтральным органам кіравання, адказным за выкананне дадзенай пастановы, пачынаючы з 1997 года пры размеркаванні адпаведных бюджэтаў прадугледжваць неабходныя фінансавыя сродкі на акрэсленыя ў дадзенай пастанове мэты.

**Намеснік прэмьер-міністра Рэспублікі Беларусь С.ЛІНГ.**

23 жніўня 1996 г., г. Мінск.

## Пасля вынясення вердыкта Мінскага суда па справе 7 членаў УНА-УНСО мяркуецца іх перадача Украіне

Аб гэтым заявіла «Інтэрфаксу» пажадаўшая застацца неназванай высокапастаўленая крыніца ў праваахоўных органах Беларусі. Яна абвергла чуткі аб тым, што быццам бы рыхтуецца абмен членаў УНА-УНСО на 14 расійскіх пагранічнікаў, што знаходзяцца ў палоне ў чачэнскіх сепаратыстаў.

**Інтэрфакс.**

## БНФ рыхтуе чарговыя масавыя акцыі

Як паведаміў сакратар Управы Беларускага народнага фронту Вячаслаў Сіўчык, у верасні БНФ мае намер прыняць удзел у некалькіх масавых акцыях. 2 верасня разам з прыхільнікамі іншых партый члены БНФ маюць намер удзельнічаць у сустрэчы з дэпутатамі Вярхоўнага Савета пасля адкрыцця другой сесіі парламента. 8 верасня чакаецца чарговае адзначэнне Дня вайсковай славы.

— Нам вельмі хацелася б, каб усе акцыі адбываліся мірна, каб не было непатрэбных парушэнняў закона і неадэкватных дзеянняў уладаў, — падкрэсліў Вячаслаў Сіўчык.

Прадстаўнікі БНФ таксама абверглі чуткі аб тым, што БНФ мае нейкія кантакты з УНА—УНСО, тым больш перамовы аб сумесных дзеяннях у Беларусі. «Мы супрацоўнічаем толькі з Рухам», — падкрэсліў сакратар управы БНФ.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### ПАЛІТЫКА

## На «круглым стале» вырашылі правесці свой рэферэндум

**Чарговае пасяджэнне «круглага стала» беларускіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый пачалося з таго, што да прынятага на мінулым тыдні Звароту далучыліся яшчэ некалькі партый і грамадскіх рухаў. Гэта Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя, Беларуская партыя «зялёных», Беларускі Хельсінкскі камітэт, ПЭН-цэнтр, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў і некалькі іншых.**

У выніку працяглых перамоў, якія былі выкліканы рознымі пазіцыямі партый у дачыненні да прапануемага альтэрнатыўнага рэферэндуму і адносінаў да ініцыятывы імпічменту Прэзідэнта, партыі выпрацавалі кампрамісны варыянт Заявы. У ім канстатуецца наяўнасць найвастрэйшага сацыяльнага і палітычнага крызісу ў краіне: дэфіцыт гандлёвага балансу складае 871 мільён долараў, пратэрмінаваныя плацяжы па зарплаце — 2 трыльёны рублёў, па пенсіях — 1 трыльён. 90 працэнтаў насельніцтва маюць даход ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт. «Перспектыў выхаду з крызісу пры такой эканамічнай палітыцы не бачна», — канстатуецца ў Заяве. Адначасова выканаўчая ўлада працягвае «пастаянны пошук вінаватых», «парушэнні Канстытуцыі і дзеючага заканадаўства», «скажэнне інфармацыі ў сродках масавай інфармацыі».

Аўтары Заявы заклікаюць Вярхоўны Савет прызначыць рэферэндум па наступных пытаннях:

«Ці падтрымліваеце вы дзеянні Прэзідэнта і ўрада, накіраваныя на сістэматычнае павышэнне цэн без належнай кампенсацыі?»

«Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Вярхоўнага Савета па забеспячэнню першачарговасці і своечасовасці выплат заработнай платы і пенсій?»

«Ці лічыце Вы, што кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады павінны выбірацца насельніцтвам адпаведнага рэгіёна?»

Удзельнікі «круглага стала» заклікалі Прэзідэнта да 15 верасня адмяніць усе неканстытуцыйныя ўказы, «не процідзейнічаць праву народа давыбраць сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы». У процілеглым выпадку ўдзельнікі «круглага стала» праз свае парламенцкія фракцыі гатовы пачаць працэдуру імпічменту. Падпісалі Зварот усе ўдзельнікі «круглага стала», акрамя старшыні Савета калгасаў А. Юнцэвіча, які не здолеў прыехаць, і старшыні Беларускага патрыятычнага руху А. Баранкевіча, — па невядомай прычыне той адсутнічаў.

Лідэры партый, якія маюць сёння самыя буйныя электараты — БНФ і ПКБ, — заявілі аб тым, што гатовы праводзіць сумесныя акцыі для дасягнення мэтаў, якія вызначаны ў дакументах «стала». Аднак БНФ мае асобную думку па рэферэндуму: ніводзін рэферэндум нельга праводзіць у грамадстве, дзе «манапалізаваная прэса». Лідэры ПКБ надаюць асаблівае значэнне паездкам па рэспубліцы.

Пасяджэнне скончылася нечакана: да палітыкаў з'явіліся прадстаўнікі «электарату» — дробных гандляроў з адзінаццаці бастуючых мінскіх рынкаў.

Бізнесмены заклікалі палітыкаў абараніць іх ад «драконаўскага» падатку, які гарадскія ўлады вырашылі ўвесці «заднім чыслом». Абараніць інтарэсы прадпрымальнікаў узяўся першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, сакратар партыі камуністаў Васіль Новікаў. Ен паабяцаў, што адпаведная парламенцкая камісія не толькі разбярэцца з гэтым канкрэтным выпадкам, але і зробіць захады для таго, каб правы дробных гандляроў былі заканадаўча абаронены.

**Таццяна КАЛІНОЎСКАЯ.**

## ПОШТА Б'Е ТРЫВОГУ

**Трывожная тэлеграма накіравана намеснікам міністра сувязі і інфарматыкі М. Малочкам у абласныя і раённыя вузлы паштовай сувязі рэспублікі. У ёй прапаноўваецца работнікам пошты аднавіць у чацвёртым квартале стан падпіскі на асноўныя рэспубліканскія выданні па стану, які быў у студзені 1995 года.**

Як паказаў аналіз, праведзены міністэрствам, толькі пяць працэнтаў падпісчыкаў афармілі падпіску на другое паўгоддзе, астатнія ж палічылі за лепшае вызначыцца перад падпіскай на апошнія тры месяцы.

Ці зробяць былыя чытачы свой выбар на карысць беларускай прэсы, мы даведаемся ўжо ў бліжэйшы час. Пакуль жа рэдакцыі газет прыкладаюць немалыя ўласныя намаганні, каб зацікавіць жыхароў рэспублікі ў падпісцы на свае выданні.

**Віктар ХУРСІК.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 20—22, Мінску і Гомелі — 21—23, Гродне — 22—24, Брэсце — 23—25 градусаў.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. Тэмпература ўначы — 7—12, удзень — 22—27 градусаў цяпла.

### Спорт-экспрэс. Хакей

## ЗАЯЎКА НА ПУЦЁЎКУ ЗРОБЛЕНА

Пяць хакейных зборных — Беларусі, Латвіі, Літвы, Эстоніі і Венгрыі — аспрэчваюць гэтымі днямі ў Рызе адзіную пуцёўку ў наступны этап кваліфікацыйнага алімпійскага турніру.

Першую сустрэчу наша зборная правяла з венграмі і выйграла больш чым упэўнена — 13:1. На думку спецыялістаў, усё вырашыцца ў заключным матчы галоўных прэтэндэнтаў у барацьбе за паездку ў Нагана — зборнымі Беларусі і Латвіі. Сустрэча пройдзе ў апошні дзень турніру — 1 верасня.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Ехалі на гастролі?

24 жніўня ў 10.00 паблізу ад вёскі Капліца Гродзенскага раёна супрацоўнікамі АМОНа УУС Гродзенскага аблвыканкома затрымана аўтамашына «ВАЗ-2103» пад кіраваннем 60-гадовага непрацуючага жыхара Гродна. У салоне знаходзіліся трое грамадзян, раней судзімыя. Пры аглядзе багажніка ў ім быў знойдзены баян, унутры якога былі схаваны пісталет з глушыцелем замежнай вытворчасці з адным патронам і 10 фальшывых стодоларавых купюр ЗША.

**Васіль КУРЛОВІЧ, прэс-цэнтр МУС.**

### КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## «БУЛЬБЯНЫ» ЗЛОДЗЕЙ ЗАБІТЫ ТРЫМА ВЫСТРАЛАМІ

Пенсіянер К. з вёскі Сакольнікі Віцебскага раёна трыма выстраламі з паляўнічай стрэльбы забіў на сваім прысядзібным участку невядомага мужчыну ва ўзросце прыкладна 50 гадоў, які позним вечарам капаў яго бульбу.

Уладальнік агарода — член Таварыства паляўнічых і рыбаловаў, стрэльба зарэгістравана. Заведзена крымінальная справа па артыкулу 101 КК Рэспублікі Беларусь.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## БАЦЬКА-КАМБАЙНЕР СВАЁЙ МАШЫНАЙ ЗАДУШЫЎ АДНАГАДОВУЮ ДАЧКУ

Аднагадовая дзяўчынка стала ахвярай свайго бацькі. Як паведамілі «Інтэрфаксу» ў Міністэрстве ўнутраных спраў рэспублікі, трактарыст калгаса «Светлы шлях» Зэльвенскага раёна ў вёсцы Угрынь, кіруючы камбайнам «КСК-100», каля свайго дома зрабіў наезд на родную дачку. Ад атрыманых пашкоджанняў дзяўчынка памерла.

**Інтэрфакс.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ*

## ... Купіць на дарозе вядро ягад

Скажу адразу: ягады на дарозе я не купляў. У лес па ягады хаджу сам. Разам з жонкай і дачкой. І не таму, што шкада тых некалькіх дзесяткаў тысяч на чарніцы ці на нешта іншае. Проста так прывучаны — ягады не купляць, а самім збіраць у лесе. Гэта ўжо як традыцыя: пачынаецца сезон — трэба ісці па ягады.

Але гледзячы, як настойліва нясуць ягады на дарогу вяскоўцы, звяртаючы ўвагу на прыдарожныя шарэнгі вёдзер літаральна па ўсіх накірунках ад Мінска, не мог не пацікавіцца цэнамі. Чарніцы (зараз іх, вядомая справа, ужо няма) пачыналі прадаваць па цане 70 тысяч за 10-літровае вядро. Ягады сёлета ўдаліся буйныя, збіральніцкія здольнасці ў людзей зараз развіты выключна. Таму ніякіх праблем не складае ўдваіх напоўніць так званае вялікае вядро за нейкія чатыры гадзіны. Калі яшчэ лес непадалёку ад вёскі, то вось і мяркуйце самі: штодзённы заробак складае 35 тысяч на аднаго ягадніка. З такой арыфметыкай пра ягадны бізнес, праўда, меркаваць можна хіба што толькі седзячы бязвылазна ў горадзе альбо па-сучаснаму, рыначна сузіраючы шарэнгі вёдраў і іх гаспадынь з акна «мерседэса». Людзі, якія не атрымлівалі зарплату па колькі месяцаў (пра гэта мне расказвалі і на Стаўбцоўшчыне, і на Нясвіжчыне, а часцей за ўсё на Пухаўшчыне), спадзяваліся сапраўды зарабіць. Ведаю прыклады, калі ў адной і той жа сям'і быў наладжаны падзел: адны — збіраюць, другія — гандлююць (гэта, калі людзі ўпэўніліся, што за гадзіну-дзве можаш тое выпакутаванае вядро і не прадаць). Альбо раскладвалі чарніцы па пяцілітровіках. Цану прызначалі ў 30—35 тысяч рублёў, спадзеючыся, што хутчэй прададуць. Ды дзе там! Дзень пры дні цана збівалася. І на гэтулькі, што апошнія чарніцы сёлетнім летам даводзілася прадаваць ледзь не па 20 тысяч за 5-літровае вядзерца. За бесцань! Аскома ў гаспадароў і гаспадынь «мерседэсаў».

Буякі па цане ў большай пашане. Яно і зразумела: ягада не абы-якая. Лекавая. Дык вось толькі тыя буякі (галубіка, іначай кажучы), хаця і сапраўды буйныя, сабраць цяжэй. Бо не так распаўсюджаны, бо на балоце растуць. Пяцілітровае вядзерца каштуе 40 тысяч рублёў. Праўда ж, і пакупнік на іх не часты. Відаць, далёка не ўсе ведаюць, якая смаката — кампот з буякоў. Можна і настойку (паверце, нашмат смачнейшую за «Сталічную») зрабіць.

У многіх прыдарожных вёсках — процьма густа засыпаных жоўтай сонечнай ягадай дрэўцаў. Алыча. Вяскоўцы за пяць літраў алычы просяць на дарогах 20—25 тысяч рублёў. І прадаюць з большым настроем. Хоць і танна, затое лёгка сабраць. Галоўнае — не прапала ягада. А дваццаць тысяч —таксама грошы.

Зараз у пашане брусніцы. Дазвол на іх збор ужо атрыманы. Адпаведна з'явіліся яны і на дарозе. За пяць літраў просяць 40 тысяч рублёў. Прадаюць і ў трохлітровіках (па цане 28—30 тысяч рублёў).

Не відаць яшчэ, каб прадавалі журавіны. На іх збор пакуль забарона. Але, расказваў добры знаёмы (сам бачыў), поліэтыленавымі мяхамі цягаюць з лесу журавіны. Зялёныя, зразумела, ягады. Складваюць у бочкі з мохам, каб, маўляў, даспявала. Не ведаю, што такія ягаднікі будуць пасля з журавінамі рабіць. Ці то самі з'ядуць, ці то на дарогу панясуць. Мо нясмачную, не выспеўшую натуральным шляхам ягаду і самі якраз будуць есці, бо каб жа на дарогу, то і пафарбавалі б у чырвоны колер — не сабе ж... Эх, рукі б паадсякаць такім гора-ягаднікам.

А яшчэ на дарозе прадаюць грушы, яблыкі, яйкі, малако. Не атрымліваючы грошай у калгасе, людзі на ўсё здатныя, каб толькі хоць на хлеб займець нейкую капейчыну.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ...прадаць мяшок бульбы

Збыт гаспадарамі вырашчанай бульбы заўсёды застаецца галаўным болем. Ёсць некалькі варыянтаў. Па-першае, бліжэйшы рынак. Тут асноўная праблема — транспарт. Бо калі яшчэ з мехам ты і здолееш уціснуцца ў вечна перапоўнены аўтобус, то далей, на рынак, бульбу пацягнеш на плячах. Да таго ж колькасць месцаў на базары абмежаваная, іх займаюць літаральна ў лічаныя хвіліны адразу пасля адкрыцця. Таму шанцаў паспець з бульбай на кірмаш, ды яшчэ калі няма транспарту, вельмі мала.

*Другі шлях — прадаць* «Белкаапсаюзу», які па ўсёй тэрыторыі рэспублікі мае шмат прыёмных пунктаў — дзесьці каля 1,5 тысячы. А сёлета да гэтай лічбы дабавіцца яшчэ паўтысячы новых. Калі раскінуць па раёнах, то атрымаецца па 15—20 прыёмных пунктаў. Няблага, ці не так?

Трэці і, напэўна, самы лепшы спосаб продажу бульбы — хлопцы, якія ездзяць па вёсках і яе актыўна закупляюць.

Ёсць яшчэ нарыхтоўка калгасам, таксама бывае, што агародніну закупляюць прадпрыемствы. У асноўным сыравіну заводы закупляюць у гаспадарак, бо разлікі вядуцца праз пэўны час, калі будзе здадзена выробленая прадукцыя.

«Белкаапсаюз» мяркуе ўстанавіць цану за кілаграм бульбы дзесьці на ўзроўні 1.200 рублёў. Разлік «Белкаапсаюза» за бульбу будзе праходзіць праз Ашчадбанк шляхам налічэння на рахунак здатчыка неабходнай сумы грошай. Даволі складаная сітуацыя. Камерсанты ў гэтым плане выглядаюць больш прывабна — і разлік на месцы, і грошай паболей (1500—1700, а то і 1800—2000 рублёў, па апошніх звестках). На рынку (калі вы ўсё ж надумаецеся павезці сваю бульбу менавіта туды) цэны ўсталююцца, на думку спецыялістаў, у адпаведнасці з якасцю тавару ў межах 1.500—2000 рублёў. Там таксама чакаецца актыўны ўдзел камерсантаў, якія будуць скупляць агародніну з мэтай перапродажу.

Такім чынам, прадаць сёлета бульбу можна па-рознаму — і за 1.200, і за 2 тысячы рублёў. І на розных умовах. Засмучае адно: чаму ўсё ж наша дзяржава дасюль не арганізавала добрай перапрацоўкі бульбы, чаму ж не наладзіла належнай вытворчасці самых розных прадуктаў з яе? Каб не вясковец думаў, як яму бульбу прадаць, а дзяржава была зацікаўлена ў тым, каб ёй гэтую бульбу прадалі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ЗНОЎ АБ СІТУАЦЫІ ВАКОЛ «ДУКАТА», «МАГНАТБАНКА»...

***Банкаўская сістэма рэспублікі перажывае сёння цяжкія часы. Пацвярджэнне таму — рашэнне Нацыянальнага банка Беларусі аб ліквідацыі АКБ «Дукат», АКБ «Магнатбанк» і іншых банкаў. Вышэйшы гаспадарчы суд прызнаў несапраўдным распараджэнне аб ліквідацыі «Магнатбанка». Укладчыкі і крэдыторы чакаюць...***

***Сітуацыю каменціруе начальнік юрыдычнага ўпраўлення Нацыянальнага банка Валянцін ШУКЛІН.***

**— Валянцін Зосімавіч, чым кіраваўся Нацбанк Беларусі, прымаючы рашэнне закрыць банкі?**

— Па свайму заканадаўчаму статусу Нацбанк абавязаны абараняць інтарэсы крэдытораў і ўкладчыкаў банкаў, забяспечваць ліквіднасць, крэдытаздольнасць і надзейнасць функцыянавання стабільнай крэдытна-грашовай (банкаўскай) сістэмы. Банкі «Дукат», «Магнатбанк» і некаторыя іншыя фактычна разарыліся. У гэтай сувязі ў адпаведнасці з артыкулам 25 Закона «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь» было прынята рашэнне аб прымусовай ліквідацыі гэтых банкаў.

Асноўнай прычынай краху з'явіліся грубыя парушэнні банкамі законаў Рэспублікі Беларусь, сваіх статутаў і прадпісанняў Нацыянальнага банка, некваліфікаваная і высокарызыкоўная крэдытная палітыка, некіруемасць філіяламі, дрэнны менеджмент. А страта кіруемасці стала прычынай фальсіфікацыі справаздачнасці, утойвання сапраўдных вынікаў работы.

**— Вы сказалі, што гэтыя банкі разарыліся. Калі можна, назавіце канкрэтныя лічбы.**

— Па стану на 1 ліпеня страты «Дуката» дасягнулі 109,7 млрд. рублёў, ці павялічваліся на працягу першага паўгоддзя тэмпамі звыш 4 млрд. руб. у месяц. Яго запазычанасць перад крэдыторамі і ўкладчыкамі па асноўнаму доўгу (без уліку працэнтаў, пені і штрафаў) павялічваліся да 137,3 млрд. руб., у тым ліку насельніцтву — 7,8 мільярда. Па віне банка не аплачаны разліковыя дакументы кліентаў на суму 145,1 млрд. руб.

Страты «Магнатбанка» толькі па стану на 1 красавіка павялічыліся да 50 млрд. руб., ці тэмпамі каля 12 млрд. рублёў у месяц. Доля праблемных да пагашэння крэдытаў вырасла да 80 працэнтаў крэдытнага партфеля, а запазычанасць перад насельніцтвам складала 32 мільярды.

**— Ці рабіў раней Нацыянальны банк спробы выправіць становішча крызісных банкаў?**

— Дзеянні Нацыянальнага банка ў гэтым напрамку былі ўскладнены з-за фальсіфікацыі справаздачнасці, скажэння бухгалтарскага ўліку самімі банкамі. Тым не менш, былі прыняты меры па санацыі крызісных банкаў. Аднак гэтыя меры, у тым ліку і па выдзяленню пазык, не атрымалі падтрымкі з боку ўласнікаў банкаў. Тады, улічваючы высокія тэмпы нарастання страт, непрыняцце акцыянерамі і кіраўніцтвам банкаў належных мераў па вываду іх з крызісу, адсутнасць кваліфікаванага персаналу, Нацыянальны банк, кіруючыся заканадаўствам рэспублікі, прапанаваў саветам названых банкаў разгледзець на сходах акцыянераў пытанне аб самаліквідацыі. Пры гэтым кіраўніцтва гэтых банкаў было папярэджана, што ў выпадку адмаўлення ад самаліквідацыі Нацбанк рэспублікі мае намер распачаць прымусовую ліквідацыю.

Бо фінансавае аздараўленне збанкручаных банкаў цяпер эканамічна неэфектыўнае. Па разліках Нацбанка, толькі для пачатку актыўных аперацый АКБ «Дукат» дзяржаве неабходна затраціць на яго санацыю не менш як 200 млрд. руб., ці прыкладна 15 млн. долараў.

**— Тым не менш, Вышэйшы гаспадарчы суд па іску АКБ «Магнатбанк» прызнаў распараджэнне Нацбанка аб стварэнні ліквідацыйнай камісіі несапраўдным як не адпаведнае заканадаўству і закранаючае інтарэсы суб'ектаў гаспадарання...**

— Мы мяркуем, што суд недастаткова поўна зрабіў аналіз заканадаўства рэспублікі і прыйшоў да памылковых высноў, таму абскардзілі яго рашэнне старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда. У адпаведнасці з артыкулам 39 Грамадзянскага кодэкса, у якім не цалкам дадзена абгрунтаванне рашэння судом, парадак ліквідацыі і рэарганізацыі вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Згодна з Законам «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь», Нацбанк у выпадку сістэматычнага парушэння банкамі законаў РБ, Статута, прадпісанняў Нацбанка, можа прыняць рашэнне аб прымусовай ліквідацыі банка, ім жа ў сваім нарматыўным акце вызначаны і парадак ліквідацыі.

Суд у якасці довадаў аб незаконнай ліквідацыі таксама выбарачна прыводзіць асобныя палажэнні артыкула 17 Закона «Аб банках і банкаўскай дзейнасці», незважаючы, што ў гэтым жа артыкуле ўказваецца аб магчымасці ліквідацыі банкаў і ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам. Акрамя таго, дзеянне Закона «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве», раўназначнага Закону «Аб Нацыянальным банку», таксама не выключае права Нацыянальнага банка на рэалізацыю сваіх кантралюючых функцый паралельна з вытворчасцю па справе аб эканамічнай неплацежаздольнасці ў судзе, паколькі гэтыя законы рэгулююць розныя ўзроўні ўзаемаадносінаў. Да таго ж рашэнне суда вынесена з парушэннем працэсуальных нормаў.

Затрымка ж з ліквідацыяй банкаў, якія разарыліся, не дазваляе вярнуць людзям грошы. Бо, згодна з артыкулам 17 Закона «Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь», маёмасць ліквідуемага банка пасля разлікаў з работнікамі банка па аплаце працы ў першачарговым парадку накіроўваецца на выкананне абавязацельстваў перад фізічнымі асобамі-ўкладчыкамі, што немагчыма ў рэжыме звычайнага функцыяніравання банка. Правядзенне неабходных разлікаў з апошнімі дазволіла б істотна стабілізаваць сацыяльную сітуацыю і павысіць давер укладчыкаў да банкаўскай сістэмы. Рашэнне ж Вышэйшага гаспадарчага суда вядзе да тупіковай сітуацыі. Заложнікамі гэтай сітуацыі ў чарговы раз становяцца грамадзяне рэспублікі, а група асоб, якая яе стварыла, ухіляецца ад адказнасці. Народ не павінен пакутаваць ні ад дзеянняў чыноўнікаў, ні ад банкіраў-авантурыстаў.

**Дзмітрый ЖУК.**

*СЕНСАЦЫЯ*

## БАСТУЮЦЬ КАМЕРСАНТЫ

**Праявіўшы зайздросную салідарнасць, у аўторак арганізавана забаставалі работнікі ўсіх рэчавых рынкаў горада Мінска. Пратэст выражаўся ў наступным: гандляры выйшлі на работу, паставілі палаткі, але тавар не вывешвалі.**

Забастоўка з'явілася рэакцыяй на ўвядзенне фіксаванага падатку. Па прынятай пастанове кожны прадпрымальнік абавязаны плаціць у казну штомесячны падатак у суме 1 млн. 300 тысяч рублёў. Для многіх гандляроў, асабліва дробных, такія адлічэнні не па кішэні, таму яны вырашылі пратэставаць супраць увядзення новага падатку.

На стыхійным сходзе прадпрымальнікаў, што адбыўся ў суботу на стадыёне «Дынама», было вырашана наняць адваката, які мог бы кваліфікавана абараняць іх правы. У прыватнасці, асаблівае абурэнне выклікаў той факт, што пастанова выйшла ў канцы жніўня, да таго ж без усялякага папярэдняга інфармавання, а плаціць трэба і за ліпень, і за жнівень, г. зн. заднім чыслом. У цэлым да 1 верасня кожны прадпрымальнік павінен выплаціць 3 млн. 900 тыс. рублёў. Толькі пры прад'яўленні квітанцыі з азначанай сумай гандлярам будзе дазволена працягваць работу. У выпадку ж няўплаты пасведчанне прыватнага прадпрымальніка будзе канфіскоўвацца работнікамі правапарадку. Мяркуючы па ўсім, хутка рады гандляроў моцна парадзеюць, паколькі фіксаваны падатак аказаўся многім не па кішэні. А ўлады наўрад ці прыслухаюцца да іх стогнаў...

**Сяргей КУЛАКОЎ.**

## ТРАГЕДЫЯ НА ДАРОЗЕ БРЭСТ—МІНСК

Злашчасны ўчастак дарогі Брэст—Мінск у чарговы раз адабраў жыццё дваіх чалавек. Не так даўно на гэтым месцы, паблізу ад вёскі Стайкі Баранавіцкага раёна, загінулі прадстаўнік гандлёвага генконсульства Славакіі з жонкай. Цяпер — намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення пажарнай службы рэспублікі сп. Матвейчык і вадзіцель штаба пажарнай службы.

Аварыя адбылася ў панядзелак. Як нам удалося высветліць, Е. Матвейчык ехаў у службовую камандзіроўку. Без чвэрці пяць вечара службовая «Волга-31» са скорасцю прыблізна каля 70 кіламетраў у гадзіну рухалася па праваму боку гэтага ўчастка шашы. Левы бок у сувязі з рамонтам дарогі закрыты. Насустрач машыне ехала 13-тонная фура (з мяркуемай скорасцю каля 110 кіламетраў у гадзіну), кіраваў якой шафёр замежнага прадпрыемства экспедыцыі «ВІР». Па адной з версій, якой прытрымліваецца следства, у «Волгі-31» лопнула кола і яе закінула па трасе на сярэдзіну, па якой і рухалася цяжкавагавая машына. Вадзіцель Матвейчыка не мог прадухіліць сутыкненне, і «Волга» ўрэзалася ў бензабак сустрэчнай фуры. І службовая машына намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення пажарнай службы, і машына прадпрыемства перакуліліся. Зараз па гэтай справе вядзецца следства. Прынамсі, некаторыя службовыя асобы, з якімі нам удалося пагаварыць, мяркуюць, што на гэтым участку шашы існуе зона з дрэннай энергіяй, якая выпраменьваецца з зямлі, што часам і прыводзіць да трагедый. Магчыма, яны маюць рацыю. Аднак зона павышанай небяспекі ў гэтым сэнсе афіцыйнага статусу пакуль не набыла.

Непадалёк ад Лепеля адбылася яшчэ адна буйная аварыя, у якую трапіў намеснік кіраўніка спраў Прэзідэнта Беларусі Г. Кашкан. «Мерседэс-600», у якім разам з Г. Кашканам знаходзіліся яшчэ тры чалавекі, не ўпісаўся ў паварот, і машыну выкінула за абочыну. Намеснік кіраўніка справў Прэзідэнта і яшчэ адна пасажырка трапілі ў рэанімацыю райбальніцы. Крыху пазней яны былі дастаўлены ў мінскую бальніцу.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*ПЕРАД ЛЮСТЭРКАМ*

# ПАКУЛЬ ГАРЫЦЬ СВЕЧКА

**Прызнацца шчыра, «курортная практыка» ў мяне вельмі малая. Два разы за ўсё сваё свядомае жыццё быў у дамах адпачынку і адзін раз — разам з жонкай у санаторыі. Але тэму нашай сённяшняй размовы пачну менавіта з курортных уражанняў.**

Так, вы пэўна здагадаліся, што размова сёння пойдзе пра так званую «любоўную тэму», пра ўзаемадачыненні мужчын і жанчын, вернасць і здраду, шчырасць і падман... І тут без так званага «курортнага рамана» не абысціся.

Дык вось, уявіце сабе раптам стаўшага курортнікам не старога яшчэ мужчыну са шлюбным пярсцёнкам на правай руцэ, з наспех сабранай пры дапамозе жонкі вялікай валізай, якому «звалілася» тры дні назад у прафкаме амаль «згарэлая» пуцёўка. Крыху агаломшаны перамяшчэннем з тлумнай работы ісямейнага побыту, наваспечаны адпачываючы знаёміцца з суседзямі па нумару і пасля сумесна выпітых двух пляшак піва з салёнай рыбкай трапляе на «Вечар знаёмстваў» у актавай зале цёпла прыняўшай яго здраўніцы.

О, гэты «Вечар знаёмстваў»!.. Колькі сямейных трагедый, запаветных успамінаў, таемнай перапіскі і канспіратыўных спатканняў у пасля-курортны перыяд ён прынёс тым, хто пачынаў з яго свой першы дзень на прафсаюзным адпачынку!.. Як сведка і непасрэдны ўдзельнік гэтага мерапрыемства, зазначу, што яно не для чалавека са слабымі нервамі.

Узаемны пошук партнёраў пачынаецца тут імгненна, без папярэдняй «артпадрыхтоўкі», бо часу ж надта мала. Прычым «слабая» палова чалавецтва, як заўсёды, вызначаецца куды большай актыўнасцю, планавай мэтанакіраванасцю, прадуманай і дакладна выбранай тактыкай, што амаль заўсёды прыносіць поспех, хуткі і трывалы.

Я, памятаю, і вокам не паспеў міргнуць, як ужо ведаў, што высокае сімпатычная Люба — работніца Міністэрства гандлю, а яе чарнавокая худзенькая сяброўка Галя — настаўніца з Гародні. У Галі, як высветлілася, ужо ёсць сябар — урач з Пінска Вадзім, і я праз тры хвіліны ўжо запрошаны на невялікі фуршэт на свежым паветры адразу пасля заканчэння вечара.

Яшчэ гадзіны праз паўтары з бутэлькай шампанскага і каробкай цукерак я стаяў ля курортнай брамы, дзе быў прызначаны збор перад вандроўкай на возера.

— Люба, а твой муж ужо на месцы! Дысцыплінаваны... — пачуў я раптам жаночы голас, які яўна належаў сейбітцы «разумнага, добрага, вечнага» са слаўнага месца на Нёмане. Гэтае «муж» нешта непрыемна нагадала з чытанага некалі ў Купрына. Ды самае цікавае было яшчэ наперадзе. Калі я ўбачыў трэцюю пару, якая таксама па папярэдняй дамоўленасці павінна была далучыцца да нашага пікніка, то пазнаў... Тамару, тую Тамару, якую дома часта сустракаў на розных вечарынках, у тэатры, на вуліцах з мілым прыемным мужам, кандыдатам навук, таксама, як і яна, выкладчыкам універсітэта. Часта любуючыся гэтай парай, я з лёгкай зайздрасцю думаў, што не кожны дзень можна пабачыць такое суладдзе душ, такую юначую захопленасць адно адным, такую сардэчную пяшчоту.

У гэты ж вечар побач з Тамарай стаяў нейкі тоўсты лысаваты дзяцюк, які ўчэпіста і па-гаспадарску трымаў яе за талію моцнай валасатай рукой з пухлымі, бы сасіскі, пальцамі.

Скажу адразу, што я і цяпер часта сустракаю Тамару з яе прыгожым мужам. І толькі мы з ёй ведаем пра таго лысаватага дзецюка, якому яна ў тое памятнае лета, як ён сам хваліўся, мыла і прасавала бялізну, якога даводзіла сваімі любошчамі да стану дзікай стомленасці. І ён, небарака, адзнаўляўся да новых подзвігаў масажам і працэдурамі, а таксама гульнёй у прэферанс з сябрукамі...

Пэўна, сустрэча з Тамарай, і тое пачутае «муж» паўплывалі больш за іншае, што я так і не ўпісаўся ў дружную кампанію. Пасля таго адпачынку я прыняў рашэнне больш «гарачых» пуцёвак не браць і абыходзіцца неяк без такога «арганізаванага адпачынку». Што ж датычыцца Тамары, то яна яшчэ там, на Нарачы, горка рыдала і ледзь не на каленях прасіла мяне нікому не выдаваць яе тайны, што я па́рушыў толькі цяпер, праз столькі гадоў...

Мой сябар — мастак. Мы ведаем адно аднаго з другога класа школы. З восьмага — блізка сябруем. А ў дзевятым ён закахаўся ў сціплую, прыгожую нейкай няяркай прыгажосцю блакітнавокую аднакласніцу Таццяну. Мне, які ажаніўся толькі ў дваццаць пяць, было прыемна і радасна назіраць гэтае чыстае светлае каханне, якое неўзабаве перарасло ў шчаслівы і, як мне здавалася, доўгі шлюб. Дафніс і Хлоя, Рамэо і Джульета, Петрарка і Лаура, — гэтыя імёны прыходзілі ў голаў, калі я бачыў свайго сябра і яго каханую. І на выпускным балі, і ў час іхняга вяселля, і калі яны разам кацілі перад сабой дзіцячую каляску з першынцам...

А тры гады таму, калі мой сябар вярнуўся пасля адкрыцця сваёй персанальнай выставы ў Германіі, яго чакала на дзвярах уласнай кватэры запіска, дзе знаёмым почыркам было напісана, што рэчы яго ў суседзяў, што далейшае сумеснае жыццё немагчымае, што пасля разводу ён можа вярнуцца на тую жылплошчу, якую вызначыць суд...

Не, жонка майго сябра не першая пачала такую рашучую атаку. Да гэтага не адзін год сядзела яна адна вечарамі ў кватэры, чакаючы мужа, які затрымліваўся ў майстэрні. Дзеці выраслі, раз'ехаліся, і аказалася, што абодвух дарослых людзей, якія пражылі разам амаль са школьнай пары дваццаць пяць доўгіх гадоў, нічога не звязвае, нічога агульнага не засталося, акрамя посуду і разам нажытых хатніх рэчаў. Ён жа доўгімі зімовымі вечарамі праседжваў адзін у майстэрні, курыў, піў горкае віно і пакутліва думаў, чаму так здарылася.

Сёння ў майго сябра іншы дом, іншая жанчына, і толькі я — ранейшы. Пра тое, як цяпер жыве ягоная Хлоя, ён мне нічога сказаць не можа, ды і не любіць размоў на гэтую тэму.

А ў ім, як гаворыцца, крык душы. Аўтар, а гэта была саракагадовая жанчына, прапанавала сустрэцца. Яе гісторыя і простая, і складаная. Пакахала мужа сваёй лепшай сяброўкі. Пісала яму лісты, прызначала сустрэчы. Ён жа цвёрда трымаўся, па-анегінску гаварыў пра брацкія пачуцці. Потым здарылася бяда. Сяброўка з мужам трапілі ў аўтамабільную аварыю, моцна разбіліся. Яго неўзабаве выпісалі дадому, а яна надоўга затрымалася ў бальніцы. І тут наша гераіня стала часта бываць у знаёмай кватэры, старалася словам суцешыць адзінокага чалавека, дапамагчы яму ў хатняй гаспадарцы, перажыць адзіноту і трагічны выпадак. Як гэта бывае, блізкасць духоўная неўпрыкмет перарасла ў блізкасць фізічную. А потым жонка Мікалая (так завуць яшчэ аднаго героя гэтай гісторыі) вярнулася дадому. Сяброўка працягвае бываць у іх, разам, утраіх, яны п'юць па вечарах гарбату, гутараць пра надзённыя справы, пра вечныя каштоўнасці, адным словам, сябруюць.

Аўтарка пісьма горка распавядала, як яна вяртаецца пасля гэтых размоў дадому, спустошная і разбітая, і горка плача перад люстэркам. Сказаць жа праўду ці на нешта рашыцца ні ў кога не хапае сіл.

Неяк мая юная дачка спытала:

— Тата, а калі я не знайду свайго чалавека, калі застануся адна?

Што мог адказаць я ёй? Што вазьму яе боль? Што абараню і засланю ад усяго злога і страшнага? Што... І што магу адказаць сабе, многім блізкім і знаёмым людзям?..

Калі гарыць свечка, яна гарыць век, — пісаў паэт. І ў гэтым дрыготкім мігценні перад бязлітасным люстэркам рысы твару расплываюцца ці складаюцца ў нейкія новыя, незнаёмыя аблічча. Там і каханне, там і здрада, там юр і пошасць... Толькі пры дзённым святле ўсё зноў набывае звыклыя рысы і вяртаецца ў звыклыя формы.

Гарыць свечка. Век працягваецца.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

# Кампенсацыі па ўкладах насельніцтву будуць выдавацца ў наступным годзе

**Згодна з рашэннем Кабінета Міністраў Беларусі АСБ «Беларусбанк» разам з Міністэрствамі фінансаў, эканомікі, юстыцыі і Міндзяржмаёмасцю рыхтуюць прапановы па кампенсацыі ўрону ад абясцэньвання ўкладаў насельніцтва.**

Цяпер жа «Беларусбанк» разам з Міністэрствам статыстыкі і аналізу старанна падлічвае памеры ўрону насельніцтва ад абясцэньвання грашовых зберажэнняў, змешчаных ва ўклады ў *Ашчадным банку і каштоўныя паперы былога* Саюза. Зыходным максімальным аб'ёмам гэтага ўрону на думку Мінфіна, была лічба ў 102 трыльёны рублёў. Спецыялістам «Беларусбанка» ў выніку сваіх падлікаў удалося не перасягнуць гэты рубеж. Па папярэдніх выніках атрымліваецца, што дзяржава завінавацілася сваім грамадзянам амаль 60 трыльёнаў рублёў. Пошукамі крыніц фарміравання спецыяльнага дзяржаўнага фонду па кампенсацыі насельніцтву гэтага ўрону займаецца дэпартамент па рабоце з фізічнымі асобамі «Беларусбанка». Папершае, распрацоўшчыкамі прапануецца выкарыстаць частку сродкаў ад прыватызацыі рэспубліканскай камунальнай уласнасці. Другой крыніцай, па словах дырэктара дэпартамента Аляксандра Баркуна, можа стаць абавязковы рэзерв «Беларусбанка», разлічаны з агульнай колькасці сродкаў, якія прыцягнуты ва ўклады. «Беларусбанк» з'яўляецца дзяржаўным прадпрыемствам, а гэта значыць, што захаванасць укладаў насельніцтва ў ім гарантуецца дзяржавай. Таму абавязковы рэзерв, які цяпер проста ляжыць на захоўванні ў Нацбанку, лепш «прымусіць» зарабляць грошы на кампенсацыю. Неблагой крыніцай папаўнення фонду можа стаць плата па рэштках сродкаў бюджэтных арганізацый на рахунках у «Беларусбанку».

Падобная практыка выкарыстання гэтых сродкаў паспяхова апрабавалася ў 1995 годзе для крэдытавання жылля. У якасці іншых спосабаў папаўнення фонду могуць стаць добраахвотныя ўзносы і ахвяраванні ад розных суб'ектаў гаспадарання. Аднак пра гэты артыкул даходу гаварыць пакуль яшчэ рана. Бо для таго, каб рабіць стаўку на істотныя фінансавыя ўліванні ў гэтую галіну, неабходна папярэдне падрыхтаваць механізм ільгот па падаткаабкладанню для «ахвяруючых» арганізацый. На папярэднім этапе спецыяльны дзяржфонд можа быць часова сфарміраваны пры дапамозе крэдытаў Нацыянальнага банка рэспублікі з умовай іх абавязковага вяртання.

Каб прагназіраваць час правядзення шырокамаштабнай кампенсацыі, трэба ўлічыць той факт, што ў гэтым годзе «Беларусбанк» будзе працягваць выплаты па ўкладах ветэранам Айчыннай вайны. Але ўжо да пачатку наступнага года банк плануе цалкам разлічыцца з гэтай катэгорыяй грамадзян. А гэта значыць, што ўжо ў 1997 годзе, пры паспяховым фарміраванні дзяржфонду, «даўгі» будуць вяртацца і іншым слаям насельніцтва.

Трэба адзначыць, што ў вырашэнні пытання кампенсацыі ўрону нашы распрацоўшчыкі праграмы не пойдуць па шляху Расіі, дзе падставай для атрымання «кампенсацыйных» служыць узрост укладчыка. Кампенсацыйныя выплаты па рашэнню беларускага ўрада павінны мець пэўны адрасны напрамак. Гэта могуць быць у першую чаргу ўдовы ветэранаў, людзі якія кавалі перамогу над ворагам у час вайны ў тыле краіны, і іншыя сацыяльна неабароненыя грамадзяне.

Відаць, у кожным канкрэтным выпадку будуць разлічвацца рэальныя даходы людзей, і кампенсацыі будуць выдавацца найперш абяздоленым і найбольш пацярпеўшым ад інфляцыі і абясцэньвання ўкладаў людзям.

Праграма выплат кампенсацый, распрацаваная «Беларусбанкам», на першы погляд выглядае зусім рэальнай і сацыяльна справядлівай. Вось толькі... асноўная крыніца фонду — сродкі ад прыватызацыі рэспубліканскай камунальнай уласнасці могуць моцна сапсаваць настрой яе распрацоўшчыкам. Бо «вялікая» прыватызацыя, аднойчы прыпыніўшыся ў пачатку года, так і застаецца на пункце чакання, дагэтуль не атрымаўшы нармальнага развіцця.

Можа жорсткая ўвязка двух працэсаў ажывіць, здавалася б, «загінуўшую» прыватызацыю?

**Сяргей КУРКАЧ.**



# УМОВЫ

## конкурсу сярод паштальёнаў РА «Белпошта» па дасягненню найлепшых вынікаў падпіскі на газету «Звязда» на чацвёрты квартал 1996 г.

Зыходзячы з мэты далейшага пашырэння кола падпісчыкаў газеты «Звязда» і ў сувязі з 80-годдзем выхаду першага нумара, рэдакцыя стымулюе працу паштальёнаў у чацвёртым квартале 1996 года на наступных умовах:

Удзельнікамі конкурсу могуць быць як штатныя паштальёны паштовых аддзяленняў, так і няштатныя распаўсюджвальнікі газеты «Звязда», якія займаюцца падпіскай па дамоўленасці з поштай.

Удзельнікі конкурсу дасылаюць асабістыя вынікі дасягнутай падпіскі непасрэдна ў рэдакцыю на спецыяльным бланку, які змяшчае газета, ці на адвольным аркушы (але з абавязковым указаннем неабходных звестак).

Пасля падвядзення вынікаў конкурсу пераможцы ўзнагароджваюцца каштоўнымі прызамі і грашовымі прэміямі па наступных паказчыках:

**1 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 100**
**2 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 80**
**3 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 70**

Трыццаць заахвочвальных прэмій прысуджаюцца за лепшыя паказчыкі падпіскі, якія ідуць следам за трыма першымі пераможцамі.

**ПРЫЗЫ ПЕРАМОЖЦАМ КОНКУРСУ ЎСТАНОЎЛЕНЫ НАСТУПНЫЯ:**

**1 месца — матаблок вытворчасці МТЗ**
**2 месца — каляровы тэлевізар**
**3 месца — пральная машына**

У трыццаць заахвочвальных прэмій будуць уключаны іншыя тавары народнага ўжытку: гадзіннікі, прасы, фены і г. д.

**УДЗЕЛЬНІК КОНКУРСУ**

**сярод паштальёнаў РА «Белпошта» па дасягненню найлепшых вынікаў падпіскі на газету «Звязда»**

| Прозвішча, імя і імя па бацьку | Пашпарт (№, дзе калі і кім выдадзены), а таксама дакладны паштовы адрас | Раённы вузел сувязі, паштовае аддзяленне | Колькасць падпісчыкаў | Прозвішча, подпіс начальніка паштовага аддзялення і пячатка |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

# УРОКІ НА КРАІ БЕЗДАНІ,

## або Чаму Панамарэнка не падпісаў пісьмо Сталіну ў жніўні 1941-га

**ЗАКАНЧВАЎСЯ другі месяц Вялікай Айчыннай вайны. Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, член ваеннага савета Цэнтральнага фронту П. Панамарэнка знаходзіўся ў Гомелі, куды прыбыў з пакінутага з жорсткімі баямі Магілёва.**
**На стале перад кіраўніком беларускай рэспублікі ляжала аб'ёмнае, на 12 старонках, пісьмо І. Сталіну, якое называлася «Аб важнейшых пытаннях вайны». Па сутнасці, гэта быў адзін з першых дакументаў, прысвечаных аналізу ваенных дзеянняў на Беларусі з моманту іх развязвання гітлераўскай Германіяй.**

Пісьмо сапраўды неардынарнае, як па форме, так і па зместу. Яно складаецца з 9 раздзелаў, якія ўяўляюць сабой спалучэнне цэлага шэрагу пытанняў — ад характарыстыкі паліціка-масавай работы ў арміях да праблем матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння войскаў.

Панамарэнка, хутка прабегшы вачыма радкі шматслоўнай пісьмовай заявы ў ЦК ВКП(б), адразу заўважыў пра сябе: работа па падрыхтоўцы ліста праведзена значная і разнастайная, але тэкст яго вельмі затэхнізаваны. У ім адсутнічае, што недаравальна для першай палітычнай асобы рэспублікі, актуальнае ва ўсіх адносінах пытанне: фундаментальная прамова І. Сталіна па пытаннях вайны па радыё 3 ліпеня 1941 года. У ёй упершыню адбіццё нападу Германіі на СССР аб'яўлялася Вялікай Айчыннай вайной усяго савецкага народа. Цяжка пераблытаць духоўнае і ваенна-стратэгічнае значэнне гэтага. Па сіле ўздзеяння на людзей яго можна параўнаць хіба што з магутнай сакрэтнай зброяй. А гэтага аспекту ў звароце да Сталіна чамусьці не было.

Прычыны паражэння, адыходу войскаў Чырвонай Арміі, безумоўна павінны былі заняць таксама адно з цэнтральных месцаў. Гаварылася ж аб іх патрошку і ў розных месцах.

П. К. Панамарэнка, з'яўляючыся з 1938 г. першым сакратаром беларускага ЦК, бачыў, што многае з таго, што здарылася ў першыя ваенныя дні, было звязана з тымі падзеямі, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў апошнія мірныя гады.

Такімі з'явамі можна было лічыць: адсутнасць мэтанакіраванага ваеннага выхавання, займанне адказных ваенных пасад недастаткова падрыхтаванымі спецыялістамі, падтрыманне дысцыпліны, заснаванай на муштры, вядзенне СССР непапулярнай вайны з Фінляндыяй.

Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР таксама дадало турбот ваеннага зместу. Адкрыліся дадатковыя «вокны» для пранікнення германскай разведкі на тэрыторыю Беларусі. Стварылася польскае антысавецкае падполле з усімі адсюль вынікаючымі ваенна-стратэгічнымі праблемамі. Нездарма нямецкія лётчыкі мелі карты з нанесенымі на іх важнейшымі ваенна-стратэгічнымі аб'ектамі.

І тым не менш, углядаючыся ў дакумент, складзены групай ваенных спецыялістаў, нельга было не адзначыць яго нейкую шчырую накіраванасць на дзяржаўнае абагульненне пытанняў двухмесячнай ваеннай гісторыі Беларусі. Панцеляймон Кандратавіч шукаў у словах, высновах нешта яму больш блізкае і зразумелае: палітычныя характарыстыкі той трагедыі, якая адбывалася на яго вачах, вінаватых у непрадбачаных падзеях людзей.

У яго распараджэнні знаходзілася багатая рознапланавая інфармацыя партыйных і ваенных крыніц аб дзеяннях усіх трох армій былой Беларускай асобай ваеннай акругі — 3-й, 4-й, 10-й. Яна ўтрымлівала пякучыя звесткі, у тым ліку і аб гібелі камандуючых карпусамі і дывізіямі, з якімі ён не раз сустракаўся і каго нядрэнна ведаў, а з некаторымі і сябраваў. Так, было адступленне вайскоўцаў на беларускай зямлі, але ж не такое, як у Францыі, Польшчы. Рух на ўсход пралягаў праз значныя і жорсткія баі ў Брэсцкай крэпасці, пад Гроднам, ля Барысава, Магілёва, у іншых месцах і населеных пунктах. Таму і сарвалася ажыццяўленне германскага плана «бліцкрыгу».

У тыя самотныя дні поўнай акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі не ведаў Панамарэнка, што амаль у той жа час дзяржаўнае і ваеннае кіраўніцтва СССР па выніках допытаў нямецкіх палонных здагадалася аб сваёй стратэгічнай памылцы: у 1940 годзе яно меркавала, што ў выпадку вайны СССР з Германіяй апошняя галоўным накірункам ваенных дзеянняў выберэ паўднёва-заходні.

На самай справе ў якасці такога аказаўся заходні. Тут была сканцэнтравана самая вялікая колькасць нямецкіх дывізій — 50 (у тым ліку 15 танкавых).

Такім чынам, Беларусь, яе ваенны і грамадзянскі патэнцыял прынялі на сябе самы галоўны і моцны ўдар ваеннай машыны гітлераўскай Германіі.

Не мог не ўспомніць Панамарэнка і наступнае: 30 чэрвеня 1941 года бюро ЦК зацвердзіла так званую дырэктыву № 1 аб пераходзе на падпольную работу партыйных арганізацый раёнаў, занятых ворагам. Зараз пачалі паступаць першыя звесткі аб яе выкананні. Сярод іх — пісьмо з Ленінскага раёна Пінскай вобласці вядомай заходнебеларускай рэвалюцыянеркі В. Харужай.

Хто б мог падумаць: перад самай вайной яе ледзь не прызналі польскай шпіёнкай, а яна зноў у месцах сваёй юнацкай рэвалюцыйнай дзейнасці, і на гэты раз у саставе аднаго з першых партызанскіх атрадаў пад камандаваннем В. Каржа.

Дакументы, якія захаваліся, сведчаць: у ліпені 41-га смяротна паранілі яе мужа; яна, цяжарная, застаецца ў партызанскім атрадзе, пераносіць нароўні з усімі выпаўшыя выпрабаванні. Толькі па прычыне фізічнай неабходнасці В. Харужая згаджаецца адправіцца ў Гомель разам з групай партызанскіх байцоў.

Тады, у 41-м яна ў пісьме ў партыйныя органы, у прыватнасці, пісала: «Адначасова лічу неабходным падрыхтаваць пытанне аб узмацненні нашай прапаганды ў тыле, у раёнах, занятых немцамі. Немцы вядуць сярод насельніцтва шалёную антысавецкую агітацыю, распаўсюджваюць чуткі аб тым, што Масква, Ленінград ужо заняты, што сын т. Сталіна здаўся ў палон немцам, а сам т. Сталін з'ехаў у Англію і што наогул СССР як дзяржава дажывае свае апошнія дні. Насельніцтва дэзарыентавана, людзі не зусім вераць немцам, але не маюць ніякіх іншых крыніц інфармацыі, пачынаюць сумнявацца ў сіле Чырвонай Арміі, у яе перамозе, не рашаюцца на супраціўленне ўладзе захопнікаў.

Для таго, каб узняць народ на актыўную барацьбу супраць немцаў, неабходна, каб у кожнай вёсцы была наша літаратура з паведамленнямі аб сапраўдным становішчы на франтах, барацьбе партызан у тыле, аб подзвігах чырвонаармейцаў, а таксама з заклікам да барацьбы, з канкрэтнымі ўказаннямі, як дзейнічаць, як наносіць удары па ворагу і з якой актыўнай барацьбой і пасіўным супраціўленнем і, у прыватнасці, што рабіць з ураджаем, асабліва ў калгасах, як не даць немцам забраць хлеб. 6.VIII.1941".

Мо гэта ніякі не ўрок ваенных дзеянняў, а рыса паводзінаў мясцовага насельніцтва, якая гістарычна склалася? Але не сказаць аб гэтым таксама нельга, бо з'яве прысвечаны дзесяткі, а то і сотні дакументаў.

Працытуем толькі адзін з іх: у Кастрычніцкім, Дамашкевіцкім, Хойніцкім, Брагінскім, Камарынскім раёнах вясковымі жыхарамі, нягледзячы на ўласныя харчовыя цяжкасці, была аказана гуманная дапамога адступаючым чырвонаармейцам «у форме вынасу малака, хлеба, масла, сала, агуркоў, памідораў».

Захаваліся шматлікія пісьмы, выказванні тых дзён, падзеленыя супрацоўнікамі пракуратуры, НКУС на два «колеры» — «белы» і «чорны». Яны сведчаць, што людзі давалі ацэнку пераважна двум фактам: вар'яцкаму нападу гітлераўскай Германіі на СССР (Беларусь асобна не выдзялялася) і адступленню нашых байцоў.

У кантэксце гэтага вось што сказаў у асяроддзі калег вядомы беларускі паэт Пятрусь Броўка: «Я не мог паверыць, што граніца так слаба абаронена. Калі б я быў камандуючым, я не спаў бы дзень і ноч, а сцярог граніцу, я думаў, там усё ў поўнай гатоўнасці, а аказваецца, там спалі, непарадак. Кажуць, сам Цімашэнка застрэліў Паўлава.

За граніцу нашы баяліся ездзіць таму, што Яжоў за гэта сажаў, а трэба было больш ездзіць і выведваць, што там супраць нас задумваюць».

А зараз прыводзяцца два лісты. Першы аднесены да «чорных», другі — да «белых». Але ці справядліва будзе, калі іх аўтараў раскідаць па розныя бакі барыкад?

Першы. Атрымальнік — Растаргуеў І. Я. Новасібірская вобласць, Кеткеўскі раён, Палочынская НСШ. Аўтар невядомы. «Я вырашыў табе апісаць усю рэчаіснасць фронту. Учора з нашай роты засталося 8 чалавек. Мы ўступілі ў першы бой 20 ліпеня на світанні, з-за гэтага наш полк страціў 1/3 свайго саставу, а к канцу дня засталося 1/3 палка. Наша задача была разбіць праціўніка сілаю ў 1 дывізію, якая вакол абкружана нашымі войскамі. Гэта нямецкая дывізія ўжо білася некалькі дзён, і вось 20-га тры нашы дывізіі павінны былі ісці ў бой у 2 гадзіны ночы. Але атрымалася глупства. Адны пайшлі ў 2 гадзіны, другія — у 3 гадзіны, а трэція — у 5 і г. д. Вядома, нас усіх паразагналі. У нас няма арганізаванасці. Калі ён нас сустракае бранёй, мы ідзём з вінтоўкамі. Яны нас б'юць з самалёта, а мы ляжым на жываце з аднымі вінтоўкамі і чакаем кулі. Мы ходзім у атаку без танкаў, а танкі — без нас. У выніку атрымліваецца, што нашай дывізіі не праіснаваць 4-5 дзён. Такі ж лёс напаткаў і іншыя 2 дывізіі. Мы яшчэ выратавалі сябе тым, што ў немцаў не было бензіну і каля 300 іх танкаў стаялі на месцы. Калі б быў бензін, невядома, што было б з намі і што было б з горадам, у якім я знаходжуся».

Другі ліст. Атрымальнік — Шчукіна П. Е., г. Саратаў. Цагельная вул., д. 220. Аўтар: Шчукін В. А., дзеючая армія, г. Гомель. «...Снарады і бомбы рваліся ля нашых ног. Нягледзячы на гібель сваіх таварышаў, мы не губляліся і не былі бездапаможнымі. Вывозілі машыны і здымалі людзей. Біліся і знішчалі ворага да апошняй гранаты. Мама, прашу, не сумуй і не хвалюйся. Калі я загіну, то загіну за нашу квітнеючую любімую Радзіму. Вораг разлічваў разбіць наш Савецкі Саюз па частках і разбіць нашу любімую Радзіму. Але ён пралічыўся. 30.VII.41 г.»

Вядома, былі малюнкі і іншага парадку. Органамі дзяржбяспекі, дзякуючы своечасова прынятым мерам, была затрымана ў розных раёнах рэспублікі не адна сотня падазроных асоб, якія распускалі панічныя чуткі, псавалі электра- і тэлефонныя правады, падавалі ўначы светлавыя сігналы гітлераўскім бамбардзіроўшчыкам. Да іх прымаліся належныя меры з дапамогай утвораных па прапанове ЦК КПБ(б) «троек».

Сярод назваў раздзелаў разглядаемага пісьма выдзяляюцца наступныя: «Палітычная работа ў арміі», «Недахопы ў баявых дзеяннях», «Барацьба з танкамі», «Слабасць нашых разведвальных органаў», «Аб тылах», «Штабы», «Паказчыкі змяненняў нашай арміі», «Паказчыкі становішча нямецкай арміі» і інш.

Сакратар ЦК адразу звярнуў увагу на тэндэнцыі ў развіцці савецкай і нямецкай армій. У першай яны характарызаваліся наступнымі з'явамі: «Выпадкі ўцёкаў часцей становяцца больш рэдкімі», «расце азлабленне да ворага, упэўненасць у перамозе», «акружэнцы б'юцца і прарываюцца да сваіх». Ацэнкі маральна-палітычнага стану варожых салдат даюцца ў наступных выразах: «перадавыя дывізіі немцаў перабіты», «калі ў першыя дні збітыя фашысцкія лётчыкі адмаўляліся адказваць на пытанні, то цяперашнія лётчыкі даюць неабходныя звесткі ахвотна», «з'яўленне аўстрыйскіх, чэхаславацкіх салдат аслабляе нямецкую армію».

Да гэтага дабавім, што нямецкае камандаванне тут, у Беларусі, упершыню на працягу 2 месяцаў, расстраляла больш як 50 сваіх салдат, якія адмовіліся ісці ў бой.

У пісьме нямала крытыкі. Яна прысутнічае амаль у кожнай яго частцы. Напрыклад, гаворка аб неадпаведным стане дзейнасці ў арміях паліткамісараў заканчваецца прапановай замяніць значную частку іх мэтанакіраваным наборам партыйных функцыянераў.

Шмат напісана аб узаемадзеянні авіяцыі і пяхоты. Прычым высновы зроблены не вельмі прыемныя для вайскоўцаў. «Адной з галоўных акалічнасцей, якія перашкаджаюць эфектыўнай рабоце, з'яўляецца адсутнасць сродкаў радыёсувязі ў авіяцыі. У выніку запозненасці паведамленняў аб цэлях і запозненасці вылетаў на бомбакіданне няма дастатковай эфектыўнасці дзеянняў авіяцыі па пярэднім краі, таму што самалёты часта з'яўляюцца са спазненнем на цэлі, а вызначыць, дзе пярэдні край свой і праціўніка не з'яўляецца магчымымі— няма магчымасці з-за змяненняў».

Выкарыстоўваючы даныя іншых крыніц, можна дабавіць, што з-за дрэннай прымацаванасці фюзеляжаў на борт бамбардзіроўшчыкаў бралі нярэдка дадатковы персанал на выпадак гібелі штатнікаў (галоўным чынам стралкоў-радыстаў і штурманаў-апаратараў). І тым не менш, авіяцыя, пераадольваючы тэхнічныя і кадравыя цяжкасці, паступова адваявала сваё месца ў паветры: без яе ўдзелу нельга ўявіць падзеі Вялікай Айчыннай вайны, вызваленне роднай зямлі ад захопнікаў.

У пісьме зазначаецца і наступнае: многія штабы, службы тылу не перабудавалі сваю работу на ваенны лад, «хочуць кіраваць аперацыямі, злучэннямі і часцямі як шахматнымі фігурамі, толькі на паперы, забываючы, што на вайне многія задумы зрываюцца дробязямі, недарэчнасцямі. Штабы карпусоў, армій, франтоў незвычайна раздутыя, і тры чвэрці людзей ў выніку гэтага не знаходзяць сабе работы, блытаюцца».

Многае напісанае магло быць выкарыстана амаль ужо ў бліжэйшыя дні. Ці не аб гэтым сведчаць радкі з раздзела «Барацьба з танкамі»: «Мы праводзім вялізныя абарончыя работы. На Дняпроўскім рубяжы капалі равы больш за 500 тысяч чалавек, а ўсяго на ўсіх рубяжах у Беларусі было занята 2 мільёны чалавек. Узведзены вялікія абарончыя збудаванні. Усе гарады і ўвесь шлях на Усход акружаны вялікімі процітанкавымі равамі, воўчымі ямамі, надаўбнямі, заваламі. Але часці праціўніка дзейнічалі па дарогах. Дарогі не перакрываліся, каб даць магчымасць рухацца нашым войскам. Пры адыходзе нашых войскаў дарогі, як правіла, не мініраваліся, не ўзрываліся, і праціўнік праходзіў бесперашкодна. І ўся гэта вялікая работа зводзілася на нішто».

Вось такім было разглядаемае пісьмо. Яно, як кажуць, не ўбачыла свет з-за адсутнасці адказу на пытанні, якія лепш за ўсё ведаў першы сакратар ЦК. З другога боку, 19 жніўня 1941 года быў здадзены немцам Гомель. Якія рэкамендацыі мог прапанаваць сваім калегам у такіх умовах чалавек, пакідаючы апошнія бастыёны абараняемай ім краіны? Добра разумеў новы статус свайго становішча і сам аўтар. Ён быў генералам без арміі, які павінен быў не крытыкаваць кагосьці і не настаўляць на шлях розуму іншых, а прасіць літасці. У наступныя дні гэта так і здарылася.

Хоць і прайшло з тых падзей 55 гадоў, многія з іх успрымаюцца як радкі сённяшніх паведамленняў з Чачні. Як бачым, урокі гісторыі нярэдка так і застаюцца нейкім незапатрабаваным вучэбным матэрыялам.

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь,**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.**

# БЕЗ ПРАВА НА ПАМЫЛКУ...

**АЛЯКСЕЙ ФЁДАРАВІЧ ШЫБАНАЎ росту далёка не волатаўскага, але шырокі ў плячах, каржакаваты, энергічны, маладжавы, з выпраўкай кадравага ваеннага. Гаворыць нетаропка, разважна, злёгку націскаючы на літару «о». «Я ж родам з Ніжняга Ноўгарада,— растлумачыў ён.— Амаль усе мае землякі «окаюць». Трыццаць дзевяць гадоў жыву на Беларусі, а вось засталося...»**

... Завод ліцця і нармалей вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш» завінаваціўся прадпрыемству «Гомельэнерга» за энергарэсурсы вялізную суму грошай. А плаціць няма чым: на разліковым рахунку — нуль! Нават сваім работнікам зарплата месяцамі не выдавалася.

Кіраўнікі «Гомельэнерга» звярнуліся з іскам у гаспадарчы суд вобласці. Справу разглядаў А. Шыбанаў. Калі ёсць запазычанасць, яе неабходна ліквідаваць. Толькі ж дзе прадпрыемству сродкі тыя ўзяць?

Істец прапаноўваў прадаць частку вытворчых магутнасцей на пагашэнне неплацяжу за энергарэсурсы. Але ж завод і так знаходзіўся на мяжы банкруцтва, а тут яшчэ адна пятля. Пазбавіць калектыў тэхнічных сродкаў і абсталявання — значыць не пакінуць ніякай надзеі на паляпшэнне спраў, выкінуць на вуліцу дзесяткі людзей. А ў іх жа сем'і, дзеці...

Пасля доўгіх разважанняў Аляксей Фёдаравіч паехаў на завод. Там пагутарыў з кіраўніцтвам, рабочымі. Высветлілася, што прадпрыемства «паклалі» на лапаткі многія партнёры па дагаворах з Расіі, Украіны, Малдовы, Беларусі. Яны атрымлівалі з Гомеля вырабы, а плаціць за іх не спяшаліся. У выніку запазычанасць склала вялізную суму, якой хапіла б для разліку за энергарэсурсы і выдачы зарплаты.

Для «ўтрасання» спраў са спажыўцамі Аляксей Фёдаравіч адлажыў судовае пасяджэнне на месяц. Але папярэдзіў дырэктара: «Калі ён за гэты час не прыме дзейсных мераў, ніякіх уступак не будзе».

На прадпрыемстве зразумелі, што жартаваць з імі ніхто не збіраецца. Таму ўзяліся за работу. Для «выбівання» грошай на месца аператыўна выехалі «штурхачы». Самі ж кіраўнікі селі за тэлефоны і сталі настойліва абзвоньваць даўжнікоў.

Трывожны сігнал быў пачуты. У адрас прадпрыемства «пайшлі» грошы.

Зноў увайшлі ў нармальны рытм работы. З'явіліся і сродкі на рахунку. Атрымалі сваю частку і энергетыкі...

... Неяк два гомельскія прадпрыемствы заключылі паміж сабой дагавор аб супрацоўніцтве. Адзін бок добрасумленна паставіўся да выканання ўзятых абавязацельстваў: своечасова і ў поўным аб'ёме паставіў партнёру неабходную прадукцыю. А другі зрабіў інакш: кошт тавару не аплаціў, хаця знаходзіўся не ў бядотным становішчы. Пастаўшчык аказаўся без грошай. Усе просьбы мірным шляхам вырашыць пытанне не прынеслі поспеху. Тады пацярпеўшы звярнуўся з іскам у гаспадарчы суд вобласці. Аляксей Фёдаравіч скрупулёзна вывучыў сэнс справы. І вынес катэгарычнае рашэнне: спагнаць з неплацельшчыка ўвесь доўг з улікам інфляцыі — амаль 3 мільярды рублёў. Ды ў дадатак яшчэ пошліну ў даход дзяржавы. А гэта таксама немалыя грошыкі!

Прадстаўнікі адказчыка былі збянтэжаны. Яны, напэўна, спадзяваліся, што суддзя праявіць лаяльнасць да іх асоб: знаёмыя не першы год, ды і фірма вядомая ў вобласці. Напярэдадні судовага пасяджэння прасілі яго «замяць» справу, намякалі, што закон, маўляў, як дышла, яго можна па-рознаму прымяніць. Толькі і Аляксей Фёдаравіч з тых, для каго закон — вышэйшая інстанцыя.

З дзяржаўнымі прадпрыемствамі ўладжваць канфлікты яшчэ так-сяк. Зусім іншая справа, калі ў спрэчках задзейнічаны так званыя «крутыя хлопцы». Гэтыя на ўсё здатныя: ад гатоўнасці «аддзячыць» за патрэбныя рашэнні — да адкрытых пагроз. Толькі і тут не праходзіць — не той характар у суддзі.

У адным з раённых цэнтраў Гомельшчыны жыве інвалід II групы. Хлопец ледзь ногі перастаўляе, а меў дакументы прыватнага прадпрымальніка па... будаўніцтву жылля і іншых збудаванняў. А калі інвалід II групы, то, натуральна, і падаткі дзяржаве не плаціў.

Аляксея Фёдаравіча зацікавіла, якім чынам фактычна бездапаможны чалавек умудраецца спрытна дамы ўзводзіць? Высветлілася, што ад імя інваліда ўсім будаўнічым працэсам кіраваў яго брат—здаравенны дзяцюк. А ў памочніках у яго былі яшчэ некалькі мужыкоў. Вось і атрымлівалася, што «інвалідная каманда» набівала грашыма ўласныя кішэні, а падаткі дзяржаве не плаціла. Але як толькі Аляксей Фёдаравіч глыбей «капнуў» справу, адразу ж тэлефонныя званкі: « Пакіньце ў спакоі інваліда! Будзьце міласэрнымі...»

Аднак суддзя не прыслухаўся да «парад» добразычліўцаў. Давёў-такі справу да лагічнага канца.

Паступова наша размова пераключылася на жыццёвыя тэмы. Я пацікавіўся ў Аляксея Фёдаравіча, ці праўду гавораць, што суддзі — самы забяспечаны і прывіліяваны народ? Жывуць, маўляў, у багацці, а некаторыя і хабар бяруць...

Замест адказу ён запрасіў мяне да сябе дамоў. Ад тралейбуснага прыпынка доўга ішлі пехатою: гарадскі транспарт тут не ходзіць. Нас сустрэла жонка Аляксея Фёдаравіча — Вера Іванаўна. Кватэра двухпакаёвая, «хрушчоўка». У ёй жывуць шэсць чалавек: Аляксей Фёдаравіч і Вера Іванаўна, іх дачка Наташа — капітан міліцыі, яе муж — сяржант міліцыі і двое іх дзяцей. Цесна, вядома ж, але, як кажуць, ніхто не ў крыўдзе. Абстаноўка недарагая, самая звычайная. Затое шмат кніг. І юрыдычная літаратура, і мастацкая, і даведачная...

— Наконт іншых нашых суддзяў скажу з усёй адказнасцю: ніхто з іх не возьме хабар, — запэўніў Шыбанаў. — Бо людзі падабраліся сумленныя, працавітыя, ганарацца сваёй работай і званнем юрыста...

**Уладзімір ГОЛАД.**

*Георгій ТАРАЗЕВІЧ:*

# «РАЗМОВЫ АБ САПЁРНЫХ ЛАПАТКАХ У ТБІЛІСІ — ПРЫНАМСІ, ХЛУСНЯ»

**Тбілісі, 1989-ы, ноч з 8 на 9 красавіка. Чорная старонка ў біяграфіі яшчэ адзінай савецкай арміі, белая пляма ў нашай недалёкай, але ўжо гісторыі. Падзеі, якія зноў аказаліся ў эпіцэнтры ўвагі ў сувязі з прызначэннем міністрам абароны Расіі генерал-палкоўніка Ігара Радзівонава. Таго самага, якому было даручана ўзначаліць аперацыю па разгону тбіліскага мітынгу, таго самага, якога потым у Грузіі назавуць бязлітасным словам «кат».**



***Зрэшты, на гэты конт у Георгія Таразевіча — іншы пункт гледжання. Нагадаем: у свой час Георгій Станіслававіч займаўся расследаваннем гэтай справы ў якасці кіраўніка спецыяльнай камісіі ЦК КПСС.***

**— Вытокі трагедыі 9 красавіка ў Тбілісі — дзе яны?**

— Палітычная абстаноўка ў Грузіі пачала ўскладняцца ў канцы 1988 г., калі ў рэспубліцы прайшлі шматтысячныя мітынгі, на якіх упершыню быў вылучаны лозунг: палітычны, эканамічны і культурны суверэнітэт. Страсці ўлягліся толькі пасля тэлезвароту да грузінскага народа М. Гарбачова. Але ненадоўга. З лютага 1989 г. хваля мітынгаў аднавілася з новай сілай. Штуршком стаў падпісаны кіраўніцтвам аўтаноміі так званы «Абхазскі ліст», у якім абгрунтоўвалася ідэя прадастаўлення Абхазіі статусу саюзнай рэспублікі. Не варта казаць лішніх слоў пра тое, як на гэта адрэагавалі ў Тбілісі. Масла ў агонь падліў інцыдэнт у пасёлку Леселідзе, дзе 1 красавіка абхазцы зрабілі напад на ўдзельнікаў мітынгу грузінскай нацыянальнасці.

У адказ з 4 красавіка пачаліся бесперапынныя несанкцыяніраваныя мітынгі і дэманстрацыі ў Тбілісі. Не дапамагла нават тэрміновая змена кіраўніцтва Абхазскай АССР: месца антыабхазскіх настрояў занялі шчыра антысаюзныя, антырускія: маўляў, Масква свядома распальвае міжнацыянальную варожасць у Грузіі. Як вынік, з'явіліся патрабаванні выхаду *рэспублікі з саставу* СССР і стварэння часовага ўрада.

**— Ужыванне сілавых метадаў у такіх варунках было абавязковым?**

— Складанае пытанне. Справа ў тым, што лідэры апазіцыі прынцыпова адмовіліся ад якіх-небудзь перамоў з ЦК Кампартыі Грузіі і ўрадам. Разам з тым не пайшлі на кантакт з плошчай і кіраўнікі рэспублікі. Дастаткова сказаць, што напярэдадні трагічнай ночы да мітынгуючых выйшаў толькі адзін чалавек — патрыярх Грузінскай праваслаўнай царквы Ілія II.

Што датычыць рашэння аб ужыванні сілы, у мяне на гэты конт толькі адна версія. Калі ўвечары 7 красавіка вярнуўся з замежнай паездкі Гарбачоў, яму адразу далажылі сітуацыю ў Грузіі. Тут жа ў Тбілісі былі накіраваны сакратар ЦК КПСС Разумоўскі і міністр замежных спраў Шэварднадзе. Аднак першы сакратар ЦК КПГ Паціяшвілі па тэлефоне здолеў пераканаць, што абстаноўка нармалізуецца і што для спешкі няма падстаў. Паездка была адкладзена на 9 красавіка.

Як бачна, такім чынам кіраўніцтва рэспублікі проста выйграла час, каб ачысціць плошчу ад мітынгуючых і «нармалізаваць» абстаноўку. У Маскве, паводле афіцыйных даных, аб гэтых намерах стала вядома занадта позна — раніцай 9 красавіка.

**— Але наўрад ці ў Тбілісі разлічвалі на тое, што адбылося. Як здарылася, што пралілася кроў, з'явіліся ахвяры?**

— Нягледзячы на тое, што мітынг каля Дома ўрада працягваўся кругласутачна, кожную раніцу на ім заставалася не больш за 400—500 чалавек. Зразумела, што выцесніць гэтую колькасць людзей з плошчы можна было без асаблівых цяжкасцей. Але тут адыгралі ракавую ролю дзве падзеі, што здарыліся ў горадзе 8 красавіка. Па-першае, у той дзень на партактыве рэспублікі прагучала рашэнне пракуратуры прыцягнуць да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці лідэраў апазіцыі, прычым гэта стала вядома на плошчы. І па-другое, удзельнікаў мітынгу паспрабавалі запалохаць ваеннай сілай, таму апоўдні па самым цэнтры Тбілісі прайшла калона бранятэхнікі.

Эфект аказаўся прама процілеглым: колькасць мітынгуючых павялічылася яшчэ больш, а на ноч, па ацэнках нашай камісіі, каля Дома ўрада вырашыла застацца прыкладна 8—10 тысяч чалавек.

**— Вядома, што напярэдадні аперацыі ў горад былі перадыслацыраваны дадатковыя часці ўнутраных войскаў, міліцыі і арміі. Навошта?**

— Перадыслакацыя войскаў у сталіцу Грузіі пачалася пасля неаднаразовых зваротаў кіраўніцтва рэспублікі да Міністэрства абароны і Міністэрства ўнутраных спраў СССР, а таксама да ЦК КПСС. Пры гэтым тлумачылася, што патрэбны дадатковыя сілы, каб узяць пад ахову партыйныя і ўрадавыя ўстановы Тбілісі і стратэгічныя аб'екты горада. Дарэчы, распараджэння выкарыстоўваць войскі ў іншых мэтах Генштаб Узброеных Сіл СССР не даваў.

**— Тады як атрымалася, што менавіта на гэтыя часці было ўскладзена правядзенне аперацыі па выцясненню мітынгуючых, і чаму, у рэшце рэшт, яе ўзначаліў генерал-палкоўнік Радзівонаў?**

— Па просьбе кіраўніцтва Грузіі армія неаднаразова прыцягвалася да аховы ЦК і Дома ўрада і дагэтуль. Напрыклад, войскі знаходзіліся ўнутры стратэгічных аб'ектаў горада з 12 па 20 лістапада 1988-га, 25 лютага і 2 красавіка 1989 г. Матываваліся такія просьбы тым, што падчас мітынгаў і дэманстрацый (а яны, як правіла, былі несанкцыяніраванымі) улады губляюць кантроль за сітуацыяй, а міліцыя прадухіліць магчымыя наступствы няздольная. Паступова выкарыстанне арміі стала звычкай.

Пазней некаторыя кіраўнікі рэспублікі гэта адмаўлялі, але факт застаецца фактам: рашэнне аб аперацыі па ачыстцы плошчы перад Домам урада прымалася на бюро ЦК КПГ. Удзел у ёй павінны былі прыняць больш за дзве тысячы салдат унутраных войскаў на чале з генералам Яфімавым.

Той жа пастановай агульнае кіраўніцтва аперацыяй было ўскладзена на камандуючага Закаўказскай ваеннай акругай генерал-палкоўніка Радзівонава.

**— У такім разе не зусім зразумелая пазіцыя самога генерала: чаму Радзівонаў згадзіўся?**

— Гэта была яго памылка. Але не варта скідваць з рахункаў, што ў той час у Тбілісі знаходзіўся першы намеснік міністра абароны СССР Кочатаў, які, безумоўна, паўплываў на канчатковае рашэнне. Да таго ж, калі шчыра, гэта сёння мы можам разважаць аб нейкай альтэрнатыве: удзел у аперацыі альбо адстаўка. Тады выбару па сутнасці не было, бо практыкі адставак савецкая армія не ведала.

Між іншым, можна казаць яшчэ аб адной памылцы Радзівонава ў Тбілісі — калі ён, падчас ужо самой аперацыі, даў згоду на ўвядзенне парашутна-дэсантнай роты ў колькасці 50 чалавек на падмогу ўнутраным войскам. Армія павінна была застацца ўбаку.

**— Вынікі ночы з 8-га на 9 красавіка вядомыя: 16 удзельнікаў мітынгу загінулі на плошчы, яшчэ трое — у шпіталі. Сотні рознай ступені цяжкасці траўмаў і атручэнняў... Што адбылося перад Домам урада ў сапраўднасці? Ёсць даволі распаўсюжаная версія, што людзей жорстка збівалі сапёрнымі лапаткамі...**

— Як былы старшыня камісіі, заўсёды сцвярджаў і буду сцвярджаць: прыкметаў таго, што людзі загінулі ад ран, нанесеных сапёрнымі лапаткамі, не было. Гэта пацвердзілі медыцынскія эксперты, у тым ліку грузінскія. Я ўжо казаў, што Радзівонаў даў згоду на ўвядзенне парашутна-дэсантнай роты, але сапёры, маючы пры сабе толькі тыя самыя злашчасныя лапаткі, знаходзіліся за спінамі ўнутраных войскаў, якія праводзілі аперацыю. Супраціўленне было жорсткім. У ход ішлі камяні, бутэлькі, палкі, арматура, кавалкі кабелю. У адказ былі ўжыты спецсродкі — гумавыя дубінкі і «чаромха». У выніку на плошчы ўзнікла цісканіна, падчас якой і загінулі людзі.

Таму ўсе размовы аб жорсткасці арміі ў Тбілісі, аб нібыта наўмысным выкарыстанні ёю сапёрных лапатак — яўная хлусня.

**— Аперацыя праводзілася ўнутранымі войскамі і арміяй СССР. А што ў гэты час рабілі сілавыя структуры самой Грузіі?**

— Па сутнасці, яны проста самаўхіліліся. Напрыклад, міністр унутраных спраў Грузіі Ш. Гаргодзе ў тую ноч так і не выйшаў з уласнага кабінета, дзе быў падчас падзей старшыня КДБ Г. Гумбарыдзе — увогуле засталося невядомым.

**— Такім чынам, можна сцвярджаць, што 9 красавіка 1989 г. была зроблена спроба сутыкнуць ілбамі грузінаў і Савецкі Саюз, грузінаў і рускіх?**

— У мяне няма падставы казаць, што тагачасныя кіраўнікі Грузіі дзейнічалі ў звязцы з З. Гамсахурдыяй і М. Каставай. Але відавочна, што ў рэшце рэшт тыя падзеі сыгралі на руку арганізатарам мітынгу: супраць арміі, супраць Савецкага Саюза была сфарміравана пэўная грамадская думка.

**— Якую, між іншым, умацаваў потым і А. Сабчак — старшыня камісіі Вярхоўнага Савета ССР па расследаванню трагедыі ў Тбілісі...**

— Заключэнне камісіі Сабчака, прадстаўленае Вярхоўнаму Савету, амаль не адрознівалася ад высноў той камісіі, якую ўзначальваў я. Таму мне дзіўна, што з цягам часу нашы ацэнкі разышліся. Хутчэй за ўсё, прычыны пазнейшых заяў А. Сабчака варта шукаць у элементарным жаданні сыграць на публіку, зрабіць на гэтых падзеях уласны палітычны імідж.

**— Але, калі шчыра, вашы абвінавачанні ў адрас былога кіраўніцтва Грузіі і Анатоля Сабчака, вашы спробы па сутнасці абяліць армію і Ігара Радзівонава асабіста нараджаюць пэўныя сумненні...**

— Тэмы Тбілісі 89-га і новага прызначэння генерала Радзівонава сапраўды працягваюць мусіравацца і грузінскімі, і заходнімі і раз-пораз нават расійскімі сродкамі масавай інфармацыі. Але я гатовы адказваць за ўсё, што было тут сказана, бо кожнае маё слова пацверджана дакументамі. І, калі будзе цікавасць, я магу прадаставіць гэтыя матэрыялы чытачам «Звязды».

**Гутарыў Сяргей ГРЫБ.**

## ЧАМУ МАСКВА БУДУЕ ШМАТ ЖЫЛЛЯ?

**Маскве сапраўды ёсць што паказаць. Яна — пакуль што адзіны не толькі ў Расіі, але і ў СНД горад, дзе жыллёвае будаўніцтва вядзецца шырокамаштабна, з улікам новых патрабаванняў. Набірае тэмпы рэканструкцыя ўсёй гарадской гаспадаркі, камунікацый. Гэта робіцца ва ўмовах, калі бюджэтных сродкаў катастрафічна не хапае. Дзе ж масквічы бяруць сродкі?**

Поспех забяспечаны дзякуючы шырокаму супрацоўніцтву гарадскіх уладаў з камерцыйнымі структурамі. У Маскве знайшлі, чым прывабіць іх. Камерсанты вядуць рэканструкцыю цэнтра, будаўніцтва новага жылля і рамонт старых будынкаў. Напрыклад, адміністрацыя Цэнтральнай акругі заключыла з камерцыйнымі фірмамі больш за 700 інвестыцыйных праектаў. Урад сталіцы прадастаўляе інвестарам, якія своечасова і якасна выконваюць абавязацельствы па кантракту, шэраг падатковых ільгот. Апрача таго, сёлета, як і раней, ім перадаецца ў поўную ўласнасць да 80 працэнтаў пабудаваных або рэканструяваных плошчаў. Толькі за апошні час у цэнтры Масквы праведзена рэканструкцыя некалькіх дзесяткаў архітэктурных помнікаў. Матэрыяльна зацікаўлены і фірмы, якія вядуць будаўніцтва і рамонт інжынерных сетак гарадской гаспадаркі, сталічных вуліц і плошчаў.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

## ЗАХОДНЯЯ ЕЎРОПА ЗАКЛАПОЧАНА КАНТРАБАНДНЫМ УВОЗАМ ЖАНЧЫН

**Гандаль «жывым таварам» — адзін з найбольш выгадных відаў злачыннага бізнесу. І параўнаўча даволі бяспечны. Бо крымінальная адказнасць за кантрабанду дзяўчат і маладых жанчын у бардэлі Заходняй Еўропы значна меншая, чым за незаконны гандаль наркотыкамі і зброяй.**

Раней кадры ў публічныя дамы пастаўляліся ў асноўным з бедных краін Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Але пасля развалу СССР і знікнення «жалезнай заслоны» прыкметна ўзрасла плынь белых жанчын з Усходняй Еўропы, Расіі, іншых краін СНД. Сёння колькасць «кантрабандных» жанчын у краінах Еўрапейскага саюза ўжо перавяліла за паўмільёна.

Падобнае нашэсце прастытутак выклікае зразумелую трывогу ўладаў і грамадскасці. Еўрапейская Камісія нават была вымушана сёлета правесці прадстаўнічую міжнародную канферэнцыю «Кантрабандны экспарт жанчын», у якой удзельнічалі прадстаўнікі краін ЕС, дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, ЗША і Канады. Адна з галоўных мэтаў канферэнцыі — стварыць перадумовы для плённага супрацоўніцтва паміж Усходам і Захадам у вырашэнні гэтай праблемы. Удзельнікі канферэнцыі прапанавалі аказваць дапамогу жанчынам-ахвярам, а не абмяжоўвацца толькі іх прымусовай адпраўкай за межы краіны затрымання. Гучалі іншыя ідэі і прапановы.

Тым часам гандаль «жывым таварам» працягвае памнажаць багацце злачыннага свету. Згодна з данымі паліцыі Берліна, іншаземка у публічным доме за змену зарабляе 500 нямецкіх марак, з якіх толькі 20 марак застаюцца ў яе. А за дастаўку ў бардэль адной дзяўчыны пастаўшчыку плацяць у сярэднім 700 долараў. Таму не выпадкова ў Германіі 75 працэнтаў прастытутак — іншаземкі, У Мілане — 80 працэнтаў, у Вене — аж 90 працэнтаў.

Рынак «жывога тавару» жорстка кантралюецца міжнароднымі злачыннымі групоўкамі. У іх усё большую ролю адыгрываюць выхадцы з рэспублік былога СССР. Так, напрыклад, шляхі кантрабанды жанчын у Польшчы і Германіі знаходзяцца над пільным вокам расійскай мафіі, Венгрыі і Аўстрыі — украінскай, Італіі — расійскіх і албанскіх злачынных груповак.

***(Па матэрыялах бюлетэняў інфармацыі ЕС).***

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### У ГРОЗНЫМ ПАЧАЛІ РАБОТУ СУМЕСНЫЯ КАМЕНДАТУРЫ

Аляксандр Лебедзь лічыць, што далейшыя затрымкі ў палітычных перамовах з чачэнскім супраціўленнем могуць прывесці ад зрыву ўжо дасягнутых ваенных пагадненняў. Сакратар Савета бяспекі таксама заявіў, што спадзяецца на адказ расійскага прэзідэнта наконт плана ўрэгулявання ў Чачні, які ў аўторак быў перададзены ў пісьмовым выглядзе. Лебедзь мае намер у чацвер або пятніцу вылецець у Чачню для працягу перамоў. Барыс Ельцын зараз працягвае свой адпачынак у падмаскоўнай рэзідэнцыі. На сваёй учарашняй сустрэчы камандуючы расійскай групоўкай у Чачні Ціхміраў і начальнік штаба чачэнскіх сіл Масхадаў павінны былі абмеркаваць парадак дзеянняў сумесных камендатур у Грозным, якія пачалі работу ўчора ўвечары. У сераду з Грознага павінны былі быць выведзены каля дзвюх тысяч расійскіх вайскоўцаў. Згодна з апошняй дамоўленасцю, аднačасова два раёны Грознага вымушаны былі пакінуць атрады чачэнскага супраціўлення. Працягваецца вывад расійскіх падраздзяленняў з Шатойскага раёна.

### АМЕРЫКАНСКІЯ ВАЕННЫЯ БАЗЫ ЗАСТАНУЦЦА НА АКІНАВЕ?

Вярхоўны суд Японіі падтрымаў рашэнне ўрада прымусіць жыхароў вострава Акінава зноў аддаць зямлю амерыканскім узброеным сілам. Губернатар вострава праводзіў буйную кампанію па скарачэнню прысутнасці на Акінаве амерыканскіх вайскоўцаў і таксама выступаў супраць праграмы ўрада. Аднак Вярхоўны суд прыняў пастанову, згодна з якой губернатар вымушаны прымусіць 35 уладальнікаў зямлі аднавіць лізінгавыя дамовы для амерыканцаў. Карэспандэнт Бі-бі-сі ў Токіо паведамляе, што гэта рашэнне наўрад ці здольнае палажыць канец кампаніі губернатара вострава, якая набыла вострае значэнне ў мінулым верасні пасля таго, як тры амерыканскія салдаты згвалцілі 12-гадовую дзяўчынку. На гэты момант на Акінаве знаходзіцца палова амерыканскага кантынгента, размешчанага ў Японіі.

### ЗЛАЧЫНЦЫ ЗАСТАЮЦЦА НА ВОЛІ

ААН мае намер разгледзець магчымасць выкарыстання эканамічных санкцый для таго, каб вымусіць варагуючыя групоўкі ў Босніі перадаць міжнароднаму трыбуналу асоб, абвінавачаных у ваенных злачынствах. Пра гэта заявіў старшыня трыбунала Рычард Голдстоўн. Трыбунал прад'явіў абвінавачанне 54 сербам, 18 харватам і 3 мусульманам. Большасць абвінавачаных, у тым ліку і лідэр баснійскіх сербаў Караджыч і камандуючы іх арміяй Младзіч, дагэтуль застаюцца на волі.

### «ФАЛЬШЫЎКІ» НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ

Улады Прыднястроўя абвясцілі, што ў абарот зноў уводзяцца выведзеныя з яго купоны вартасцю ў адзін, пяцьдзесят і сто прыднястроўскіх рублёў, але з надрукаванымі на іх нулямі. Цяпер гэтыя купоны будуць каштаваць адпаведна дзесяць тысяч, пяцьдзесят тысяч і сто тысяч прыднястроўскіх рублёў. Курс прыднястроўскага рубля сёння складае 520.000 за долар ЗША.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё 101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Двухгадовая Эбіс дэ Джысус нарадзілася з рэдкім захворваннем, якое вядома як «сіндром пярэваратня» і выражаецца ў інтэнсіўным валасяным покрыве твару. Бацькі трымаюць дзяўчынку выключна дома, ды і сама яна не выходзіць пагуляць, таму што не толькі яе аднагодкі, але і дарослыя вельмі ўжо яўна палохаюцца яе незвычайнага выгляду. Аднак урачы ў амерыканскім горадзе Філадэльфія, дзе і жыве няшчасная дзяўчынка, бяруцца вылечыць яе захворванне.

**Асашыэйтэд Прэс.**

*Чарговы этап аўтагонак па «Формуле-1», які праходзіў у бельгійскім курортным горадзе Спа ў мінулую нядзелю, яўна ўзбуджальна падзейнічаў на гледачоў. Многія з іх, раз'язджаючыся па дамах пасля спаборніцтва, забыліся на правілы дарожнага руху. Бельгійская дарожная паліцыя затрымала за перавышэнне скорасці больш за тры тысячы вадзіцеляў. 222 з іх імчаліся са скорасцю 180 кіламетраў у гадзіну. Усе яны аштрафаваны. Пераможца этапа Міхаэль Шумахер прайшоў трасу з сярэдняй скорасцю 208,442 кіламетра ў гадзіну.*

**Рэйтэр.**

Пераплыць Вятку са звязанымі нагамі і рукамі ўзяўся 47-гадовы жыхар Кірава-Чэпецка Кіраўскай вобласці Анатоль Дамрачоў. Пры вялікай колькасці разявак плывец стартаваў на самым імклівым адрэзку ракі. Ногі спартсмену звязалі, а рукі ён сашчапіў за спінай. На ўсім шляху яго для страхоўкі суправаджала лодка. Праз 11 хвілін плывец пераадолеў дыстанцыю больш за 300 метраў і выйшаў на бераг. Цячэнне аднесла яго далёка ад месца мяркуемага фінішу.

**ЕАН.**

КОЛЬКІ яна выстаяла і вытрывала! Высокая, вузлаватая, уся ў шрамах і нарастах. Колькі якіх павеваў і вятроў прашумела над ёй, колькі галін абламала і пакалечыла! Якія каваныя боты не пакінулі след на яе карэнні, чые толькі кулі і асколкі навечна не ўвайшлі ў яе белае цела! Зглумілі рэчку, якая паіла яе жыватворнай вільгаццю, і рэчка далёка адступіла ад яе каранёў, тая, што некалі ганяла льдзіны, якія таранілі таполю і спачывалі пры яе галінах, дзе знаходзілі паратунак ад паводкі розныя жывыя душы. Шумелі пажары, прынесеныя войнамі, абгарала ад іх тонкае вецце, зялёным усыхала лісце. Мяняліся людзі, якія хадзілі пад ёю, мянялася іх жытло, мянялася вуліца, па якой хадзілі і ездзілі, і тое, на чым ездзілі. Дайшла таполя да прыканца стагоддзя спакутаванаю, але магутнаю, на два добрыя абхваты. І скалечанаю. Дупло зрабілася на тым месцы, якое даўным-даўно абпалілі кастром лютыя людзі, распаліўшы яго на карэнні.

Таполя выжыла, загаіла рану, зарубцавала яе, але мёртвая драўніна пакрысе высыпалася з-пад абалоні. Дупло атрымалася такое вялікае, што ў ім мог схавацца і дарослы чалавек. Дарасламу пасярод горада лазіць у дупло няёмка. А дзецям не схавацца ў дзіўную схованку проста нельга. Таму яны і віравалі вакол таполі, бо побач у кіёску прадавалі марожанае і хлебны квас. Пакуль дарослыя стаялі ў чарзе, малым была забаўка. Прыбіральшчыца, якая падмятала аўтобусны прыпынак, даглядала і старую таполю, таму вакол дрэва і ў самім дупле заўсёды было чыста.

І стаяць бы яшчэ таполі, жыць ды жыць, зелянець вясной маладым лісцем! Але з'явіліся людзі, якія прытвараюцца, што ім трэба большага ладу і парадку. Таму і вырашылі яны, каб чаго-небудзь не здарылася, прыбраць старую таполю. Па сняжку, па марозіку прыйшлі чырванашчокія дужыя дзядзькі, уключылі пілы і звалілі ўміг спрадвечнае дрэва. Калі звалілі, то стала відаць, што на той абалоні, якая жыла і трымала дрэва, стаяць бы яму яшчэ і стаяць. Раскрыжавалі таполю хутка, бо да машыны-будкі, на якой прыехалі выканаўцы, наведалася аж некалькі ўвішных дзядзькоў. І чырванашчокія мужчыны выходзілі з бытоўкі яшчэ чырванейшымі і весялейшымі, дружней і зладжаней гырчалі маторныя пілы, сыпаліся на ўтаптаны снег белыя апілкі. Пакуль прачнуўся выхадны гарадскі люд, справа была зроблена: тое, што засталося ад таполі, пагружана на машыны і вы-

*НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ*

**Алесь ЖУК**

# СЛЯЗА НА ТАПОЛІ



везена з выгадаю, а мяккі і чысты сняжок, што густа пасыпаўся, як гэта і бывае на пачатку зімы, засыпаў сляды, забінтаваў белую рану невысокага пня, які застаўся ад таполі.

Але на тым пра таполю не забыліся. Вясною, калі пачаў распырхваць пупышкі суседні каштан, да пня зноў прыехала машына-будка, пануры і нечым незадаволены дзядзька вывалак з яе сваю адмысловую машыну і пачаў доўга і ўпарта стругаць пень да таго часу, пакуль той не зраўняўся з зямлёй. Праз некалькі дзён пад'ехалі самазвалы і шухнулі на газон чорную балотную зямлю. А потым прыйшлі гаманкія рабацяшчыя цёткі з фартухамі, завязанымі не спераду, а ззаду, разнеслі, разраўнялі прывезеную зямлю, пасадзілі кветкі і тоненькія дубчыкі, з якіх потым разрасліся кусты. Нетутэйшыя, але прывабныя сваімі бэзавага колеру кветкамі-званочкамі над зялёненькаю роўненькаю травою-сеянкаю. І неўпрыкмет над усім гэтым узнялася тоненькі стройны атожылак з сэрцападобнымі тапалінымі лісткамі. Ніхто не заўважыў гэтага ў жыццёвым тлуме і мітусні. Ахаваная кветкамі-званочкамі, таполя праз нейкія тры гады паўстала над зямлёй гонкім маладым дрэўцам, якое набірала моц, бо сілу ёй надавалі магутныя спрадвечныя карані. І людзі заўважылі яе, любаваліся і цешыліся маладою прыгажосцю. Таполя цягнулася ўгору, прыветна і годна глядзела на свет маладым зялёным лісцем. Не снілася і не думалася ёй, што не забылі пра яе тыя людзі, што ездзяць у машынах-будках. Цяпер яны і на людзей не зважалі, прыехалі сярод белага дня, звалілі на зямлю зазелянелае дрэва, раскрыжавалі за лічаныя хвіліны і ўкінулі разам з галлём у брудны грузавік. Трактарок з нажом-бульдозерам спераду і каўшом ззаду згарнуў у кучу глебу з газона і пагрузіў на самазвал. Потым разраўняў на месцы былой зеляніны шэры гравій, які паслужліва высыпалі з другога самазвала...

Работу рабілі спяшаючыся, быццам кралі, і пад вечар на тым месцы, дзе стаяла таполя і была зялёная прыгажосць, тлуста чарнела асфальтам пляцоўка для стаянкі машын.

Асфальт гэты не выліняў, не пашарэў яшчэ ад сонца, ад пылу і дажджу. Легкавічкі паркуюцца на ім, бо перад стаянкай пад белымі зонцікамі, белымі столікамі і белымі крэсламі разгарнулася кафэ, якое працуе зранку да позняе ночы. За столікамі дымяць цыгарэтамі, п'юць «колу» і да «колы», частуюць сваіх галаногіх сяброўак задаволеныя сабой хлопцы...

Але міне час, адгуляюць, адшыкуюць белазубыя хваткія хлопцы, выліняюць зонцікі, абшарпаюцца пластмасавыя столікі, прыйдзе канец кафэ, якое збярэ свой узятак. Пашарэе, патрэскаецца на спусцелай пляцоўцы асфальт. І з-пад яго праб'ецца на белы свет тоненькі парастак з сэрцападобным вечным зялёным лісцікам. Той, хто пажыў на зямлі, ведае гэта. Закон жыцця няўмольны.

Але навошта было глуміць маладую таполю?

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ*

# ПЛАЧ ВАДЫ І СЭРЦА

«НЯМА Ў БЕЛАРУСІ ракі нашай мары. Сплыла даўно вада *божая, чыстая або ў Чорнае,* або ў Балтыйскае мора. І плыве цяпер толькі замутнёная, хворая і пракажоная па міласці чалавека вялікай вучонасці і ведаў, супертэхнічна ўзброенага...

Калі рака з вытоку, з таго самага святога месца свайго, дзе яна нараджаецца, ужо брудная — хіба гэта не жудасна? А хіба можна супыніць, суняць дрыжыкі ў сэрцы ў эпіцэнтрах забруджанасці? Кожная рака мае такія эпіцэнтры. Для Прыпяці — яны каля Пінска і Мазыра, Нёман самы брудны ніжэй Мастоў і Гродна, Бярэзіна — у раёне Светлагорска, Свіслач — у кварталах і прыгарадах Мінска...»

Гэтая кніга рана ці позна павінна была з'явіцца. А тым часам яна доўга выношвалася ў душы аўтара пасля шматлікіх паходаў, паездак, экспедыцый па роднай зямлі, пісалася пакутліва, з болем у сэрцы.

«Плач вады» — гэтак ёміста і вобразна назваў сваю кнігу яе аўтар Пятро Сабіна. Ведаючы яго асабіста (а мне давялося некалькі гадоў працаваць разам у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага радыё, дзе і сёння працуе П. Сабіна), я не пераставаў здзіўляцца, як ён мэтанакіравана, крок за крокам асвойваў адну і тую ж тэму: родная зямля і чалавек. У дзвюх частках кнігі — «Дняпроўскія плёсы» і «Плач вады» аўтар з болем сцвярджае: зямля пакутуе, зямля плача, падае свой голас, што яна ў небяспецы. Катастрофы, землятрусы, смерчы і навадненні — гэта папярэджанне, што наша планета — жывы арганізм, і чалавек павінен ставіцца да яе, як да роднай маці.

Першая частка кнігі — «Дняпроўскія плёсы» прысвечана галоўнай рацэ, рацэ трох славянскіх народаў — Дняпру. Аўтар у саставе экспедыцыі, у якую ўвайшлі вучоныя з Акадэміі навук Беларусі, Украіны, спецыялісты з Дзяржкампрыроды, беларускія, украінскія і рускія (са Смаленшчыны) пісьменнікі, праходзіць ад вытокаў Дняпра, са знакамітай смаленскай Сычоўкі, праз Дарагабуж, Смаленск, беларускія прыдняпроўскія гарады і гарадкі Дуброўна, Орша, Копысь, Шклоў, Магілёў, Жлобін, Рагачоў, Рэчыца, каб паказаць, як людзі адносяцца да славутай ракі. А тут, як кажуць, з ракой мора праблем... Але даверымся аўтару: «Такое ўражанне, быццам зусім нядаўна тут смерч пракаціўся і спапяліў усё жывое на сваім шляху. Дранцвееш, мова адымаецца, бачачы такое. Смерч, смерч... Божухна... Ён жа нікуды не дзеўся. Ён жа ззаду ў нас над трубамі — ярка-жоўты, густы. Ён паўзе на нас. Адразу хочацца атраснуцца. Але яго не атрасеш. Ад яго не схаваешся і не ўцячэш. Кожны дзень ён тут, над гарадам, Дняпром, над усім жывым...

Цяжка дыхаць, не хапае паветра... Яго ніколі не хопіць. Яно атручана.

Мясцовыя жыхары кожны дзень ім дыхаюць. І кожны дзень сухоцяць душу. Чаму маўчаць званы? Чаму званы маўчаць?»

Вось такое ўражанне ад сустрэчы з Дняпром на мяжы Расіі і Беларусі.

А галоўныя ворагі Дняпра — безадказныя адносіны чалавека да ракі, яго бязглуздая гаспадарчая дзейнасць, неразумная меліярацыя, мінеральныя ўгнаенні, ядахімікаты, сцёкі з прамысловых прадпрыемстваў, жывёлагадоўчых комплексаў, канцэнтраваны збор падземнай вады. Праехаўшы праз дняпроўскія гарады і мястэчкі, члены экспедыцыі выносяць вердыкт: Дняпро трэба ратаваць, і неадкладна. У выніку быў створаны камітэт па выратаванню Дняпра.

У другой частцы кнігі — «Плач вады» Пятро Сабіна засяроджваецца на яшчэ адной славутай рацэ — Заходняй Дзвіне.

Аўтар ўздымае і праблемы азёр, якіх вельмі шмат у Беларусі.

У Пятра Сабіны своеасаблівая палітра пісьма. Ён валодае зайздроснай якасцю: здольнасцю паяднаць лірычны пачатак (нямала паэтычных старонак, легенд ён падаў у сваёй кнізе) з багатай фактураю.

Скажу яшчэ, што кніга магла б не выйсці — з прычыны сённяшняга цяжкага становішча выдавецтваў, каб не Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Мінскі энергетычны цэнтр Еўрапейскага саюза, якія ўзялі на сябе ўсе выдаткі.

**Яўген ХВАЛЕЙ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 29 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**16.50** «Марсава поле». Праграма для вайскоўцаў.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Зберагчы лес ад пажараў».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па адным».
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял.
**20.05** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Оскар». Тэлегульня.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Хроніка жніва-96.
**22.10** Ален Дэлон у маст. фільме «Бывай, сябар!» (Францыя).
**23.50** «Крок». Праграма для моладзі.
**0.20** Навіны.

**ГРТ**

**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Час пік.
**18.35** Лота-Мільён.
**19.00** «Адзін на адзін».
**19.45** Спакойнай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Шпіёнскі фільм «Плашч і кінжал».
**22.35** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.
**23.25** Навіны.

**Канал «Расія»**

**16.20** Музыка ўсіх пакаленняў.
**16.35** Залежыць ад цябе.
**16.50** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў (Францыя).
**17.20** Ваш партнёр. «Дамашні лекар».
**17.30** Астралогія кахання.
**18.00** Тэлескоп.
**18.25** Кліп-антракт.
**18.30**. Нічога, акрамя...
**18.40** «Цёмная» для А. Бонэр.
**19.30** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**20.25** Раз на тыдзень.
**20.55** Надвор'е на заўтра.
**21.00** Хакей. Кубак свету. Чэхія—Швецыя.
**23.15** Навінкі ад «ТБ-медыа».
**23.40** Раман Вікцюк у дак. фільме «Маэстра».
**0.10** Музыка ўсіх пакаленняў.

**Санкт-Пецярбург**

**17.30** Стыль жыцця.
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** «Заметкі ў стылі рок». Фільм-канцэрт.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Рышэльё». Маст. фільм (Францыя) 3-я серыя.
**22.15** «Раферці». Маст. фільм. 2-я серыя.

**НТБ**

**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Дак. фільм «Разведчык, контрразведчык» (ЗША).
**19.00** «Люстэрка трэснула». Маст. фільм (Вялікабрытанія).
**20.50** Доктар Вугал.
**21.35** «Дом жахаў Хамера».
**22.30** Часінка.
**23.20** Кіно не для ўсіх. Маст. фільм «Пасрэднік».
**1.15** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.

**Канал МКТ**

**13.05** Еўраспорт.
**19.00** Анонс.
**19.10** Мультфільм «Русалачка — новыя прыгоды Арыэль».
**20.25** Маст. фільм «Анёлы чорнага пояса».
**21.45** «Hi-Fi Music».
**22.05** Алек Болдуін у дэтэктыве «Шэрая форма» (ч. 1).
**23.35** STV. Vox.

## Віншаванні

*Віншуем з днём нараджэння дарагую мамачку Еву Фёдараўну Пінчук. Жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця на ўсё жыццё.*

***Сын, нявестка, дачка, зяць і ўнучкі Жэня, Каця і Саша.***

*Віншуем з днём нараджэння дарагіх дачушак Іну Крушлінскую з г. Любань і Галіну Хантаніст з г/п Бераставіца. Жадаем шчасця і дабрабыту.*

***Мама, тата і бабуля, в. Краўцэвічы Навагрудскага раёна.***

*Віншуем дарагую дачушку і сястрычку Вольгу Вілтоўскую з днём нараджэння. Жадаем бадзёрасці, шчасця і поспехаў у вучобе.*

***в. Жасцінае. Тата, мама, брат, сёстры.***

*Віншуем з днём нараджэння Івана Казіміравіча Хахаловіча. Жадаем здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця; няхай любыя беды і няшчасці абыходзяць цябе.*

***Жонка, дзеці, в. Дамашы Браслаўскага раёна.***

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

✦ ***29 жніўня 1776 года*** пачала выдавацца «Газета Гродзенская» — першае перыядычнае друкаванае выданне на Беларусі. Выходзіла да 1783 года.

✦ У гэты дзень ***у 1851 годзе*** нарадзіўся Андрэй Жалябаў, рэвалюцыянер-народнік, адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў «Народнай волі», рэдактар «Рабочай газеты». Арганізатар замаху на Аляксандра II.

✦ ***29 жніўня 1915 года*** нарадзілася славутая шведская актрыса Інгрыд Бергман, вядомая нам па кінафільмах «Забойства ва Усходнім экспрэсе», «Асенняя саната» і інш.

✦ У гэты дзень ***у 1949 годзе*** недалёка ад Сямі-палацінска была выпрабавана першая савецкая атамная (плутоніевая) бомба.

### Народны каляндар

Сёння — *трэці, малы Спас* — свята хлеба. Спраўлялі дажынкі — святкаванне заканчэння жніва, якое суправаджалася абрадамі («завіванне барады»), танцамі, песнямі, частаваннямі. Між тым, прырода ўсё больш упэўнена паварочвае на зіму: «па Спасе трымай рукавіцы ў запасе».

### Цікава

***Амерыканская хімічная фірма «Сігма» ўжо пяць гадоў выпускае духі... для сабак.***

Гэта не капрыз багатых сабакаўладальнікаў, а надзённая патрэбнасць для паліцыі, мытні і спецслужбаў. Штучныя аналагі пахаў розных рэчываў і прадметаў, на пошук якіх трэніруюць сабак-сышчыкаў, зручней выкарыстоўваць пры трэніроўках, чым самі аб'екты пошуку. Так, выпускаюцца араматызаваныя камбінацыі пад назвамі «Какаін», «Гераін», «Узрыўчатка» і нават «Спалоханы чалавек». Вядома, што для сабакі чалавек, які знаходзіцца ў стане стрэсу, пахне інакш, чым у спакойным стане. Так што па гэтым паху можна выявіць асобу, якая, скажам, праз мытню імкнецца правезці недазволены груз, а таксама адшукваць ахвяр лавін, землятрусаў, абвалаў.

### Дзесьці на белым свеце

З кінафільмаў мы ведаем, што амерыканскія паліцэйскія пры патруляванні ездзяць верхам на конях, але вось стала вядома, што некаторыя іх калегі, у прыватнасці, з дарожнай службы, надзелі.. ролікавыя канькі. У іх, аказваецца, вельмі зручна лавіраваць паміж машынамі, якія захраслі ў «пробцы».

### Прафесіі

***Як паказала чарговае амерыканскае даследаванне, самая нервовая работа ў Штатах, звязаная з найбольшай колькасцю стрэсаў, — быць прэзідэнтам.***

За ёй па напружанасці ідуць такія прафесіі, як пажарны, аўтагоншчык, таксіст, хірург, касманаўт, паліцэйскі. Самая ж спакойная работа ў Амерыцы сёння, згодна з тых жа даследаваннях, страхавы кансультант.

### Гісторыя

***Толькі праз 2400 гадоў гарады Афіны і Спарта падпісалі між сабой дагавор аб міры, які палажыў афіцыйны канец братазабойчай Пелапанескай вайне.***

У 404 годзе да нашай эры абложаныя спартанцамі Афіны пасля 27-гадовай вайны згадзіліся заключыць перамір'е, але мірны дагавор так і не быў падпісаны да нашых дзён. Мірыцца, аказваецца, ніколі не позна.

### Іх мараль

***Права хадзіць у туалет у час работы не запісана ні ў адной канстытуцыі свету. Але ў яго існаванні ніхто не павінен сумнявацца, што і пацвердзіў незвычайны судовы працэс у Францыі.***

Канфлікт узнік на адной з мясаперапрацоўчых фабрык у Брэтоне, гаспадар якой устанавіў, што 300 яго рабочых маглі карыстацца туалетам толькі тры разы на дзень у строга вызначаны час, і не больш чым 5 хвілін. Справядлівасць аднавіў суд, і цяпер любы рабочы ў любы момант можа спыніць работу, проста сказаўшы: «У туалет, начальнік!»

### Анекдот

*Замежны прадпрымальнік цікавіцца нашымі халадзільнікамі, пытаецца:*

*— А як працуе маразілка?*

*— Выдатна, — адказваюць нашы. — Пакуль мяса знойдзеш, усе пальцы адмарозіш.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4876.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12